ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 14 (2416) 6 красавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

## НАТАТКІ ПРА КІНАПАНАРАМУ 1995 ГОДА

# НЕ ТРЭБА ПРЫБЯДНЯЦЦА!

СПАЧАТКУ некалькі слоў пра тое, якім чынам я "папаў у кіно". І не адзін, а разам са сваім славутым калегам па Саюзу пісьменнікаў Рыгорам Барадуліным.

5--12 сакавіка ў жыцці Саюза кінематаграфістаў Беларусі адбылася падзея. Традыцыйна яна завецца кінафестывалем, але нашыя сціплыя калегі назвалі яе "Праграмай новага беларускага кіно". Асноўная мастацкая частка гэтай праграмы складалася з чатырох конкурсаў: на лепшы твор альбо на цыкл твораў у жанрах ігравога кіно, кінадакументалістыкі, твораў рэжысёраў-пачаткоўцаў, якія рыхтуюццыа стаць прафесіяналамі, урэшце, аўтараў анімацыйных фільмаў.

Такія мерапрыемствы (няхай чытач прабачыць мне гэты бюракратычны штамп) на адным энтузіязме не правядзеш. Раней, у былым СССР, манапольным "мецэнатам" была дзяржава. Дакладней -- бюракратычныя вярхі на чале з кампартыйным кіраўніцтвам. Схема была простая: ёсць рашэнне Бюро ЦК (адпаведна на ніжэйшых прыступках -- бюро абкома, райкома) -- ёсць грошы і рэсурсы. Уяўная прастата і лёгкасць вырашэння ўсіх сацыяльных і культурных праблем! Аб ёй сёння ўздыхаюць постсавецкія стараверы, яўна і палка чакаючы рэстаўрацыі. Забылі афарызм старадаўняга дыялектыка: у адну і тую ж плынь нельга ступіць двойчы.

Кінематаграфістам дапамог генеральны спонсар (так у праграмах), Беларускі гандлёва-фінансавы саюз, на чале якога сёння стаіць добра вядомы Вячаслаў Кебіч. Як бы мы ні ацэньвалі раней тую дзейнасць спадара Кебіча на пасадзе старшыні былога ўрада, але пагодзімся з біблейскай сентэнцыяй: "Рука дающего да не оскудеваеть". У рэкламе гэтага саюза, надрукаванай у "Каталоге белорусских фильмов 1992--1994 гг.", гаворыцца, што ягоная мэта -- "торгово-финансовая и промышленно-аграрная интеграция стран СНГ, налаживание деловых связей с зарубежными партнерами".

Ну што ж -- добрая справа "інтэграцыя", бо нават у старадаўнія часы блізкія і далёкія паміж сабою народы гандлявалі і наладжвалі сувязі. Напрыклад, тыя ж "варагі з грэкамі". Сучасныя краіны ў гандлёва-прамысловай сферы знаходзяцца ў глыбокай узаемазалежнасці. Але толькі не за кошт нацыянальнага суверэнітэту і культурнай самабытнасці. Гандлёва-прамысловая інтэграцыя Заходняй Еўропы, ЗША і Японіі нашмат мацнейшая, чым у так званым СНД, і глыбейшая, чым у былым СССР. Але там ніхто не ўступае свайго палітычнага і культурнага суверэнітэту ні на цалю. Нашыя ж "уздыхацелі" пра СССР, арыентаваныя на "інтэграцыю" з Расіяй, за невялікім выключэннем, пагарджаюць нацыянальнай культурай і па сутнасці хочуць татальнай русіфікацыі Беларусі, спадзяючыся атрымаць пэўныя матэрыяльныя выгады за кошт нацыянальнага рэнегацтва.

(Працяг на 6-й стар.).

## СТРАХАВАННЕ Ў НАШЫМ ЖЫЦЦІ

# СПАДЗЯВАЙЦЕСЯ: "АЛЬВЕНА" ВЫРУЧЫЦЬ

*У руска-беларускім слоўніку страхаванню прысвечана ажно пяць слоў -- страхузнос, страхдэлегат, страхкаса, само страхаванне і страхфонд. Адно гэта гаворыць аб ролі страхавання ў нашым мінулым жыцці. І ўсё ж асмелюся заўважыць, што калі раней страхавых агентаў большасць з нас сустракала без энтузіязму, то зараз, ва ўмовах інфляцыі на усе 40 працэнтаў у месяц, сама думка аб заключэнні страхавога дагавора падаецца, мякка кажучы, несур'ёзнай. І тым не менш, ствараюцца і існуюць новыя, недзяржаўныя страхавыя кампаніі, пашыраецца рынак страхавых паслуг. Як ім гэта ўдаецца? За кошт чаго? Што яны прапануюць? Аб гэтым адбылася гаворка з Генадзем СІДОРЧАНКАМ, намеснікам генеральнага дырэктара страхавой кампаніі "Альвена".*

-- **Ці разлічваеце вы змяніць тыя негатыўныя адносіны да страхавання, якія склаліся ў нашых людзей?**

-- Яны безумоўна зменяцца. Людзі зразумеюць неабходнасць страхавання. Толькі адны -- своечасова, а другія -- позна. Уявіце сабе наш рынак, які зараз перажывае перыяд станаўлення. Дапусцім, што нейкі прадпрымальнік ужо не адзін год б'ецца над стварэннем сваёй вытворчасці, укладае ў яе развіццё ўсе свае грошы, і раптам нешта здараецца. А здарыцца можа многа чаго, напрыклад, у апошні час вызначылася ўстойлівая тэндэнцыя росту пажараў, і сярод іх расце колькасць падпалаў. І наш бізнесмен застанецца ні з чым.

-- **Ці здольны вы дапамагчы ў такім выпадку?**

-- Страхаванне -- гэта аснова асноў развіцця эканомікі, проста многія яшчэ не разумеюць гэтага, не разумеюць, што толькі мы ў такой сітуацыі і дапаможам. Калі на Захадзе згарае дзяржаўнае прадпрыемства на суму некалькі мільярдаў долараў, знайсці ў бюджэце грошы для яго аднаўлення практычна немагчыма. Таму там застрахавана практычна ўсё: жыццё, маёмасць, нерухомасць, каштоўнасці... І калі нешта здараецца, страхавая кампанія пакрывае ўсе страты. Прычым, такія шматмільярдныя пакрыцці для страхавых кампаній праходзяць практычна бязбольна, бо яны прымаюць на сябе толькі тыя абавязацельствы, якія могуць выканаць, і кожны цвяроза ацэньвае свае магчымасці, актывы і рэзервы. Мне падаецца, што бізнесмены, якія думаюць аб будучыні, а не аб тым, каб зарабіць на "Мерседэс", футра для жонкі і вячэры ў рэстаране, усё часцей і часцей звяртаюцца да паслуг страхавых кампаній.

-- **А як выглядае страхаванне ва ўмовах нашай сённяшняй інфляцыі?**

-- Пры страхаванні інфляцыя ўлічваецца заўсёды і паўсюль, нават у краінах з устойлівым эканамічным развіццём. Там таксама робіцца папраўка на працэнт інфляцыі, якім бы нязначным ён ні быў. Гэта робіцца для таго, каб страхаванне было выгадна і кампаніі, і кліенту. Але пры нашай велізарнай інфляцыі праблема вырашаецца дадатковым унясеннем страхавых узносаў. Гэта можна рабіць штомесячна ці штоквартальна.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## МІНСК. 25 сакавіка 1995 года. 77-я ЎГОДКІ БНР



# ДАСЯГНУТАГА НЕ АДАБРАЦЬ

25 сакавіка ў Мінску святкаваліся 77-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі. Апоўдні каля express опернага тэатра на мітынг сабраліся беларусы, якія шануюць гэта нацыянальнае свята, нашчадкі тых, хто яшчэ ў 1918 годзе змагаўся за незалежнасць і самастойнасць сваёй Бацькаўшчыны. За 77 гадоў было рознае стаўленне да 25 Сакавіка. Каралі, не заўважалі, насміхаліся. У апошнія гады святкавалі, хоць і не ўсенародна. Высокія дзяржаўныя ўлады сёлета свята не забаранілі, але вырашылі "не заўважыць" яго. Амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан павіншаваў амерыканскіх беларусаў з Днём волі, а ад свайго прэзідэнта віншавання не дачакаліся.




**НА ЗДЫМКАХ: 25 сакавіка 1995 года. Мітынг каля опернага тэатра з нагоды 77-х угодкаў БНР.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПРЭЗІДЭНТ

НАВЕДАЎ ЧАРНОБЫЛЬШЧЫНУ



Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка наведаў Чарнобыльскую атамную электрастанцыю, правёў дзелавыя сустрэчы з яе кіраўніцтвам. Пасля наведвання ўкраінскай зямлі Прэзідэнт пабываў у раёнах Гомельшчыны і Магілёўшчыны, якія найбольш пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

Ёсць надзея, што пасля паездкі кіраўніка дзяржавы ў гэтыя мясціны вырашэнне чарнобыльскіх праблем атрымае новы імпульс.

НА ЗДЫМКУ: гутарка Прэзідэнта з жыхарамі вёскі Савічы Брагінскага раёна, што знаходзіцца ў зоне радыеактыўнага забруджвання.

ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

## СЛАВЯНСКІ САБОР РВЕЦЦА ДА ЎЛАДЫ

40 кандыдатаў у дэпутаты новага парламента вылучыла на сваім з'ездзе, які адбыўся 26 сакавіка ў Мінску, партыя Славянскі сабор "Белая Русь".

Большасць з іх будуць балаціравацца па Мінску (15), Віцебску (3) і Віцебскай вобласці (10). Толькі двух кандыдатаў змаглі вылучыць члены гэтай партыі ў Гродзенскай вобласці і толькі аднаго -- у Брэсцкай. Сярод тых, хто будзе ісці на выбары з праграмай сабора (а гэта, перш за ўсё, двухмоўе, саюз усходнеславянскіх народаў, праваслаўе і духоўнасць) -- вучоны Валянцін Акулаў, журналіст Ігар Гукоўскі, тэлекаментатар Аляксандр Ягораў, артыст Уладзімір Гасцюхін, кінарэжысёр Юрый Азаронак...

VOX POPULI

## КАМУ ШТО ПАТРЭБНА

Па выніках даследавання Магілёўскага абласнога сацыялагічнага цэнтра, 52,8 працэнта апытаных магіляўчан не адабраюць змену цяперашняй дзяржаўнай сімволікі. Да флага і герба БССР прапанавалі вярнуцца толькі 18,8 працэнта рэспандэнтаў. Не вызначыліся па даным пытанні 20,5 працэнта.

Мовай пастаяннага карыстання для 90 працэнтаў рэспандэнтаў застаецца руская, хаця дрэнна разумеюць беларускую ўсяго 13,5 працэнта. За абавязковае навучанне дзяцей толькі на беларускай мове выказаліся 16,2 працэнта ўдзельнікаў апытання. 38,8 працэнта былі за выбар мовы навучання для дзіцяці па жаданню бацькоў.

Заключэнне эканамічнага саюза з Расіяй адабраюць 79,2 працэнта апытаных. Прыхільнікамі ж палітычнага саюза дзвюх дзяржаў з'яўляюцца 40,5 працэнта, не адабраюць такой палітыкі 30,2 працэнта, не вызначыліся па данаму пытанню 29,2 працэнта рэспандэнтаў.

ВІНШАВАННЕ КЛІНТАНА

## УГОДКІ АКТА 25 САКАВІКА

Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан выступіў з прывітаннем амерыканскім беларусам у сувязі з 77-мі ўгодкамі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Як падкрэсліваецца ў ім, кароткатрывалая рэспубліка 1918 года дае важны прыклад сучаснаму пакаленню. Нацыя мусіць быць пільнай, аберагаючы свой суверэнітэт. Аднаўленне ў 1991 годзе незалежнасці Беларусі, сімвалізуючы нязменны дух беларускай дэмакратыі, уяўляе сабой здзяйсненне спадзяванняў народа на працягу шматлікіх стагоддзяў.

Падтрымка суверэнітэту, незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі, заявіў Біл Клінтан, стала асноўным прынцыпам у дачыненнях Амерыкі з гэтай краінай.

ГОДНАСЦЬ

## МАСТАК М. САВІЦКІ — АКАДЭМІК

Народны мастак рэспублікі Міхаіл Савіцкі выбраны правадзейным членам Акадэміі навук Беларусі. Такое рашэнне прыняла сесія Агульнага сходу АНБ.

Міхаіл Савіцкі ўдастоены гэтага высокага гонару за вялікі ўклад у развіццё нацыянальнага мастацтва. Ім створаны шырока вядомыя творы жывапісу "Плач", "Партызанская мадонна", цыкл палотнаў "Лічбы на сэрцы", трыпціх "Агрэсія", насычаныя антыфашысцкім пафасам і публіцыстычнасцю.

На сесіі Агульнага сходу правадзейнымі членамі вышэйшай навуковай арганізацыі рэспублікі абраны таксама беларуская вучоныя, акадэмікі былых саюзных акадэмій мастацтваў, педагагічных і медыцынскіх навук Георгій Паплаўскі, Міхаіл Лазарук, Іван Харламаў, Васіль Івашын, Веньямін Вацякоў, Уладзімір Мацюхін.

СПРАВА І. СЯРЭДЗІЧА

## ХАЙ ВЫРАШЫЦЬ КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД

Пад зваротам у Канстытуцыйны суд Беларусі з просьбай разгледзець адпаведнасць дзеючаму заканадаўству ўказа Прэзідэнта А. Лукашэнкі аб вызваленні з пасады галоўнага рэдактара "Народнай газеты" Іосіфа Сярэдзіча і стварэнні Наглядальнага савета над сродкамі масавай інфармацыі паставілі свой подпіс семдзесят адзін дэпутат Вярхоўнага Савета. Аб гэтым заявіў ініцыятар звароту, лідэр парламенцкай сацыял-дэмакратычнай фракцыі Алег Трусаў. Ён паведаміў, што перадасць усе неабходныя дакументы ў Канстытуцыйны суд у бліжэйшыя дні.

ПАРАТУНАК

## ПРАДАЕЦЦА НЯМЕЦКАЙ ФІРМЕ

Большасць членаў акцыянернага таварыства "Лідсельмаш" прагаласавалі за продаж 51 працэнта акцый нямецкай машынабудаўнічай фірме "Нівёнэр".

На такі крок лідчане пайшлі не ад добрага жыцця. Старэйшае ў горадзе прадпрыемства апынулася на мяжы банкруцтва: яго цэхі з-за неканкурэнтаздольнасці выпускаемай прадукцыі месяцамі не працуюць. Становішча "Лідсельмаша" і яго перспектывы разглядаліся больш чым у 60 фірмах блізкага і далёкага замежжа, і толькі "Нівёнэр" згадзілася ўкласці свой капітал, каб выратаваць сельмашаўцаў.

СУПРАЦЬ БЯДЫ

## ТЭЛЕСІСТЭМА Ў ЛЕСЕ

Неацэнную дапамогу ў выяўленні лясных пажараў на пачатковай іх стадыі заклікана аказаць тэлесістэма для назірання за ляснымі ўгоддзямі, якая ўпершыню ў нашай рэспубліцы ўключаецца ў Мядзельскім лясгасе. Пакуль яна будзе "назіраць" толькі ў нарачанскай зоне, хаця ў такім ўсёвідушчым воку даўно маюць патрэбу ўсе лясгасы. Вядома ж, што ў апошнія гарачыя летнія месяцы беларуская лясы асабліва пацярпелі ад пажараў. Толькі летась іх было каля трох тысяч.

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ



У Мінску адбылася першая нацыянальная выстава-прэзентацыя "Малдова прадстаўляе". Тут дэманстраваліся тавары народнага спажывання, станкі, прамысловае абсталяванне, вырабы харчовай прамысловасці, малдаўскія віны.

З экспазіцыяй азнаёміўся прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл ЧЫГІР (на здымку).

ПОЗНЯЯ ЎЗНАГАРОДА

## ЗА БЕРЛІН

Дарагі падарунак атрымаў да 50-годдзя Перамогі жыхар вёскі Славань Светлагорскага раёна Мікалай Гвоздзь.

Праз паўстагоддзя, дзякуючы пошуку архіўных дакументаў, яго знайшоў ордэн Чырвонай Зоркі, да якога салдат быў прадстаўлены яшчэ 17 мая 1945 года за ўдзел у штурме Берліна.

У N 13 "Голасу Радзімы" на другой старонцы ў інфармацыі "Перарэгістрацыя партый" не па віне рэдакцыі была дапушчана памылка. Прозвішча начальніка Упраўлення грамадскіх арганізацый Міністэрства юстыцыі правільна Сухінін М. Просім прабачэння за недакладнасць.

СУПРАЦОЎНІЦТВА




З першых дзён стварэння Еўрапейскай асацыяцыі дырэктараў школ у яе рабоце прымаюць удзел трое педагогаў з Мазыра. У іх ліку -- і Тамара КАЛАЦЕЙ (на здымку) -- дырэктар СШ N 10.

Гэтая асацыяцыя аб'ядноўвае 55 тысяч членаў з 25 дзяржаў Еўропы. Напрамкі яе дзейнасці -- стварэнне школ новага тыпу, кіраванне школай на міжнародным узроўні, абмен вопытам работы. Па лініі асацыяцыі нядаўна ў мазырскіх школах пабывалі яе прадстаўнікі -- педагогі з Галандыі, якія далі высокую ацэнку якасці выкладання.

Ва ўсіх чатырох пасяджэннях асацыяцыі прымала ўдзел Тамара Фролаўна. Паездка на чарговае, якое адбудзецца сёлета ў маі ў Хельсінкі, пакуль пад сумненнем: у горада няма сродкаў.

ДА БЕЛАРУСАЎ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ

## ЯК СВЯТКАВАЦЬ ЮБІЛЕЙ ПЕРАМОГІ

Акрамя афіцыйных, урадавых структур, якія рыхтуюцца шырока адзначыць 50-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў стварыла альтэрнатыўны грамадскі Арганізацыйны камітэт па святкаванню 50-х угодкаў заканчэння другой сусветнай вайны ў Еўропе. Старшынёй аргкамітэта з'яўляецца народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Аргкамітэт выступіў са зваротам да грамадзян Рэспублікі Беларусь і беларусаў усяго свету. У ім выказаны свой погляд на падзеі і свае прапановы, як правесці святкаванне 50-годдзя Перамогі над фашызмам.

Святкаванне 50-х угодкаў Перамогі над фашызмам у нашай краіне, гаворыцца ў звароце, павінна праісці пад знакам шчырага клопату пра ветэранаў-пераможцаў. Але гэта не павінна звесціся толькі да гучных слоў удзячнасці франтавікам, партызанам, падпольшчыкам. Неадкладнае паляпшэнне ўмоваў штодзённага жыцця ўдзельнікаў антыфашысцкага змагання -- святы абавязак дзяржавы і грамадства.

Ступень цывілізаванасці беларускага грамадства павінна выявіцца таксама праз ушанаванне і догляд мейсцаў масавага забойства фашыстамі цывільных насельнікаў. Мейсцы, дзе знаходзіліся спаленыя разам са сваімі жыхарамі беларускія вёскі, знішчаныя яўрэйскія гета, як помнікі смутку і напамінкаў аб небяспецы фашызму, трэба ўзяць пад ахову дзяржавы. Дзяржаўныя ўлады павінны паклапаціцца пра былых вязняў канцлагераў, прымусова вывезеных на працу ў Германію грамадзянаў, асабліва непаўналетніх. Наспела патрэба больш дакладнага перагляду сфабрыкаваных ваеннымі трыбуналамі судовых справаў тых асобаў, якія панеслі пакаранне толькі з-за палітычных перакананняў ці выказванняў думак, якія не ўтрымлівалі значэнства супраць чалавецтва.

Сведчаннем вяршэнства маральнасці ў нашай краіне будзе ўраўнаванне ў правах усіх грамадзянаў Беларусі, якія змагаліся супраць фашызму, прызнанне іх дзяржавай паўнавартаснымі ўдзельнікамі другой сусветнай вайны. І як вынік -- аднолькавая для ўсіх сістэма льготаў, дабротаў і клопатаў. Гэта павінна распаўсюджвацца на грамадзянаў Беларусі, якія ваявалі ў партызанскіх атрадах еўрапейскіх краінаў, якія бралі чынны ўдзел у баявых аперацыях у Еўропе і Афрыцы, штурмавалі Кёнігсберг, Берлін...

Беларусь выйшла з другой сусветнай вайны, панёсшы велізарныя людскія, матэрыяльныя і духоўныя страты. Кожны чацвёрты яе грамадзянін стаў смяротнаю ахвяраю гэтае вайны. Таму жаданне любой палітычнай сілы прысвоіць сабе героічны чын беларускага народа і манапалізаваць афіцыйнае ўшанаванне яго ў грамадскіх мейсцах ці ў сферах масавай інфармацыі будзе расцэньвацца як спекулятыўны сродак палітыка-прапагандысцкай агітацыі, як цынізм і здзек са светлай памяці аддаўшых сваё жыццё ў барацьбе з фашызмам, -- заяўляе альтэрнатыўны аргкамітэт. Гэта будзе не што іншае, як гвалт над перспектывай існавання дэмакратычнай незалежнай Беларусі.

Святкаванне 50-годдзя завяршэння другой сусветнай вайны ў Еўропе павінна праісці ў нашай краіне пад сцягамі краінаў-пераможцаў гітлераўскай кааліцыі і пад гістарычнымі і сённяшнімі дзяржаўнымі сімваламі Беларусі -- гербам "Пагоня", бел-чырвона-белым сцягам, у якіх акумуляваны гераізм барацьбы беларускага народа за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны, заклікае грамадскі аргкамітэт.

Гэтага выйшла толькі ўнутраная сітуацыя ў нашай краіне, але і традыцыі еўрапейскіх народаў.





# ДАСЯГНУТАГА НЕ АДАБРАЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У Беларусі імпрэзы ладзіла найбольш нацыянальна свядомая частка інтэлігенцыі, і да яе далучыліся тыя, хто не страціў нацыянальнай годнасці, хто неабыякавы да таго, якімі будуць нашы сцяг і герб і як нас успрымаюць у свеце: як суверэнную дзяржаву з адметнай мовай, старажытнай сімволікай, сваёй валютай ці як бедных сваякоў "старэйшага брата", не надта дабразычлівага і зусім не бескарыслівага.

У гэты ж дзень у Палацы мастацтва адкрылася выстава "Адраджэнне-95", наладжанае аб'яднаннем мастакоў "Пагоня". Аб'яднанне гэта абапіраецца толькі на грамадскую падтрымку ды на ўласны энтузіязм, не мае ад дзяржавы ніякіх датацый, і гэта акалічнасць, ствараючы пэўныя матэрыяльныя цяжкасці, дае поўную свабоду творчасці. Мастакі "Пагоні" прынцыпова адмовіліся ад ганаровых званняў "народных" і "заслужаных". Яны свабодныя ад дыктату, але не свабодныя ад сумлення, ад падзей, што адбываюцца на Беларусі. Кіраўнік студыі "Пагоня" мастак Аляксей Марачкін, адкрываючы выставу і прадстаўляючы творы сваіх калег і вучняў, сказаў, што ў іх работах своеасаблівы летапіс, гістарычны шлях Беларусі ў асобах, героях, творчых пастацях і простых людзях. Ёсць на выставе творы сатырычныя і гумарыстычныя, і рабіліся яны не дзеля таго, каб некага пакрыўдзіць ці абразіць. Можа смех, а не злосць дапаможа людзям розных плыняў і поглядаў лепш паразумецца, прымусіць некага задумацца і адчуць трывогу, якой поўняцца сэрцы мастакоў.

Віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі павіншаваў усіх са святам, з вялікім Днём, калі Беларусь сказала аб сваёй незалежнасці. Але цяпер незалежнасць не патрэбна кіраўнікам краіны, якія замест свабоды падкідваюць народу рэферэндум аб мове. Пра тое, што абражаецца наша нацыянальная мова, сімволіка, гаварыў паэт і дзяржаўны дзеяч Ніл Гілевіч. Ён таксама паўтарыў, што ў маючым адбыцца рэферэндуме няма ніякай патрэбы, а мэта ў яго адна -- ліквідаваць нашу незалежнасць. "Сітуацыя склалася драматычная, -- сказаў ён. -- Можа больш драматычнай, чым была ў 1918 годзе. У нас хочуць адабраць усё, чаго мы дасягнулі. Усё, што ёсць на нашай зямлі варожае, нялюдскае, вырашыла аб'ядацца. І таму аб'ядацца павінна ўсё светлае, разумнае і высакароднае".

Што такія светлыя сілы ёсць і яны яднаюцца, сведчыць і выстава, бо творы, прадстаўленыя на ёй, паказваюць, што немагчыма скаваць талент. А сапраўдны талент заўсёды служыць вялікай ідэі.

"Мы жывём у вельмі трывожны час, -- гаварыў і лідэр БНФ Зянон Пазьняк, -- Але калі нават у цяжкіх умовах мастакі паказваюць узоры такога высокага мастацтва, то гэта сведчыць аб незнішчальнасці таленту, аб незнішчальнасці характа і душы мастака. Лепш, калі ідзе барацьба духоўная, а не на кулаках".

На творцу, у якой бы сферы ён ні тварыў -- у літаратуры, музыцы, мастацтве, -- кладзецца сёння асаблівая адказнасць. Бо ён выхавацель, і ён жа выказнік волі і думак народа. Не да супрацьстаяння, а да згоды заклікае ён сваімі творамі.

Ужо на некалькіх выставах з года ў год выстаўляецца адзін і той жа экспанат -- мемарыяльная дошка, якую меліся прымацаваць на доме ў Мінску, дзе ў 1918 годзе 25 сакавіка была абвешчана БНР. Ёсць дом, ёсць дошка, ёсць гістарычныя падставы для яе ўмацавання на тым доме. Няма дазволу гарадскіх уладаў. Якое "разумнае" тлумачэнне можна знайсці гэтаму факту? Толькі адно: каб менш ведалі, менш думалі, менш пыталі.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.



**НА ЗДЫМКАХ:** адкрыццё выставы работ членаў суполкі "Пагоня" ў Палацы мастацтва; твор **А. ЮР'ЕВА "Крыгаход"**.

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## УРАЧЫСТАЕ СВЯТКАВАННЕ 77-й ГАДАВІНЫ АБВЯШЧЭННЯ БНР У ВІЛЬНІ




Напярэдадні нацыянальнага свята 25 Сакавіка сотні беларусаў Віленшчыны запоўнілі вялікую залу Дома настаўніка.

Прысутнічалі прадстаўнікі вышэйшых уладаў Літоўскай Рэспублікі -- старшыня Вярхоўнага Савета Чэслаўс Юршэнас, старшыня горада Антанас Чаплінскас, пасол Рэспублікі Беларусь Яўген Вайтовіч, старшыня рады "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, прадстаўнік БНФ Валянціна Трыгубовіч, артысты з Мінска Віктар Скорабагатаў, Ганна Каржанеўская, прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацый горада і раёнаў.

Кветкі, прыгожы плакат "25 сакавіка -- Дзень Волі" і вялікая "Пагоня" аздобілі прасторную сцэну.

Адкрыў урачыстасць старшыня ТБК Х. Нюнька. Усе прысутныя падняліся, і загучала непаўторная нацыянальная песня "Магутны Божа". Як заўсёды, выдатна выканаў яе папулярны артыст віленскай філармоніі Леанід Мурашка.

З дакладам выступіла ўсім вядомая Ганна Сурмач. Коратка і змястоўна абрысавала барацьбу беларускага народа за незалежнасць. Народ вырываўся з паншчыны і няволі магутнымі хвалямі паўстанняў 1794 года (Касцюшка), 1812 года, калі была спроба адрадзіць самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага, 1830--1831 гады, 1863 год (К. Каліноўскі).

Аднак сілы былі няроўныя. Расійская імперыя ў саюзе з Прускай і Аўстра-Венгерскай імперыямі задушыла нацыянальны рух Беларусі і Літвы. І ўсё ж такі народ наш не памёр і не скарыўся.

Устаюць на папялішчах скрываўленага народа новыя і новыя барацьбіты за волю, за родную культуру і самастойнасць дзяржавы.

Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Вярыга-Дарэўскі, Грынявіцкі, Багушэвіч, Цётка, Купала, Багдановіч, Колас, Гарэцкі, Гарун і цэлая плеяда іншых дзеячаў і герояў пракладваюць шлях да волі. "Наша Доля" і "Наша Ніва" -- светачы адраджэння, закладваюць фундамент будучай незалежнасці Беларусі.

Першы ўсебеларускі кангрэс -- разагнаны штыкамі. Рада кангрэса фармуе нацыянальны ўрад, які змушаны эмігрыраваць. Браты чэхі і славакі дапамагаюць нам, чым толькі могуць.

Чырвоная імперыя змушана была (хоць фармальна) прызнаць існаванне беларускай рэспублікі (БССР). Гісторыя даказала, што наш народ здольны сам кіраваць сваёю дзяржавай.

За межамі дзейнічаюць Захарка, Абрамчык, Жук-Грышкевіч, Сажыч...

Нарэшце Беларусь, як Прыбалтыйскія краіны, Казахстан, Грузія, Украіна і іх суседзі, вырываецца з імперскага ярма. Але наш абдураны лжывымі агітатарамі народ не здолеў поўнасцю вызваліць шыю з-пад чужацкага ўплыву.

Ёсць кіраўнікі, якія масавай бруднай агітацыяй гоняць беларусаў у новы прыгон -- ім патрэбны чужы, "панскі" хлеб (хоць Беларусь магла б поўнасцю пракарміць сябе сама).

Ёсць у нас кіраўнікі, якім вельмі хочацца быць "Бабрак-Кармалямі". Ім у гэтых мэтах незалежнасць свае дзяржавы не патрэбна.

Аднак гэтыя іх антынацыянальныя імкненні не здзейсняцца.

Народ наш жыў, жыве і будзе жыць!

Далей былі зачытаны павіншаванні з-за мяжы і краю: прэзідэнта ЗША Клінтана, прэзідэнта БЦР -- Міхася Зуя з Аўстраліі, спадароў Шукелойця, Жук-Грышкевіч, Я. Запрудніка з ЗША і шмат іншых.

З кароткай прамовай і павіншаваннем выступіў спадар Ч. Юршэнас, які пажадаў беларусам поспехаў і добрых узаемаадносін, а таксама падкрэсліў, што толькі цесная згуртаванасць дапаможа нам перамагчы ўсе нягоды.

Ад БНФ выступіла сп. Трыгубовіч, якая выказала радасць з сустрэчы з беларусамі Віленшчыны, сярод якіх яшчэ дзейнічаюць прадстаўнікі старшага пакалення. Людзі, якія ахвяравалі свае сілы, здароўе, а не раз і жыццё адраджэнню сваё Бацькаўшчыны.

Ад імя гарадскіх уладаў цёпла павіншаваў прысутных Антанас Чаплінскас.

Пасля заключных слоў Л. Луковіча прысутныя адспявалі нацыянальны гімн Беларусі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Канцэртную частку распачала вядомая артыстка-дэкламатар спадарыня Дзягілева.

Вельмі цёпла зала сустракала кожны нумар выступлення мінскага опернага спевака Віктара Скорабагатава і акампаніятара Ганны Каржанеўскай. Выдатны спеў і цудоўны, непараўнальны акампанемент таленавітай піяністкі сталі для многіх віленчукоў адкрыццём.

Выконваліся песні XVIII-XIX стагоддзяў, кампазіцыі Куліковіча-Шчаглова. Кветкі і бурныя воплескі ўзнагародзілі даравітых і сімпатычных артыстаў.

Сустрэча закончылася ў памяшканні "Сябрыны", дзе пры кубачку кавы адбыліся новыя знаёмствы і нявымушаная шчырая гутарка.

Аляксей АНІШЧЫК.

Вільня.

## *ДУМКІ ПРА БЕЛАРУСЬ. ПІСЬМЫ ЧЫТАЧОЎ*

**BELARUSIAN ASSOCIATION OF AUSTRALIA**

BOX №. 94, P.O. FAIRFIELD. N.S.W. 2165

Australia

Рэдактару газэты "Голас Радзімы"

Вельмі шаноўны сп. рэдактар!

Вітаем Вас, вашых супрацоўнікаў і ўсіх чытачоў вашай газэты з 77-мі ўгодкамі гістарычнага абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка і з далёкай Аўстраліі жадаем і ўсяму беларускаму народу як найхутчэйшага замацавання незалежнасці Рэспублікі Беларусь і асягнення належнага і пільна патрэбнага эканамічнага дабрабыту.

Жыве вольная і незалежная Рэспубліка Беларусь!

З пашанай да ўсіх вас

**Алесь АЛЕХНІК,**
**гэнэральны сакратар.**

Аўстралія.

**BELARUSIAN CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA**

**(БЕЛАРУСКІ КАНГРЭСАВЫ КАМІТЭТ АМЭРЫКІ)**

724 WEST TANTALLON DRIVE,
FORT WASHINGTON,MARYLAND 20744
PHONE: (301) - 292-2610
FAX: (301) -292-8140

ELEVENTH
BELARUSIAN CONGRESS
OF AMERICA

*25-га сакавіка 1995 г.*

Рэдакцыйнай Калегіі газэты "Голас Радзімы".

г. Менск

Дарагія суродзічы!

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі вітае Вас з знамянальнаю датаю -- 77-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Апошнімі часамі сілы, варожыя адраджэньню беларускай дзяржаўнасьці, намагаюцца стварыць для нашага народу ўмовы розпачы, выклікаць у людзей ня толькі пачуцьцё абыякавасьці, але й нават непрыхільнасьці да самой ідэі беларускае незалежнасьці. На вялікі жаль, гэтыя сілы знаходзяць ня толькі падтрымку сярод кіраўнікоў дзяржаўных структураў Беларусі, але гэтыя кіраўнікі часта робяцца самі зачыншчыкамі антынацыянальных, разбуральных працэсаў на нашай Бацькаўшчыне. Таму барацьба Беларусі за сваю незалежнасьць заходзіць, хаця й паволі, у крытычны стан.

Адчуваючы вялікі непакой за будучыню Беларусі, як незалежнае дзяржавы, хочацца, аднак, верыць, што выбары ў гэтак званы Вярхоўны Савет Беларусі, прызначаныя на 14-га травеня, дадуць перавагу прадстаўнікам дэмакратычнага, адраджэнскага руху, якія здолеюць спыніць антынародныя, дэструктыўныя працэсы, што адбываюцца на нашай Бацькаўшчыне.

Няхай Векапомны Акт 25-га Сакавіка згуртуе ўсіх беларусаў як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі на новую барацьбу за адраджэньне беларускае дзяржаўнасьці! Няхай паходня, запаленая 25-га Сакавіка 1918 году, зырка гарыць, асьвятляючы шлях да здабыцьця поўнае незалежнасьці Беларусі!

Няхай жыве вольная, дэмакратычная Беларусь!

**МіхасьСЕНЬКА,**
**сакратар.**

**Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ,**
**старшыня.**

# БОЖА, РАТУЙ НАШУ МОВУ!

Мяне і маіх суайчыннікаў здзівіў артыкул, у якім гаварылася аб тым, што ў Віцебску няма беларускіх школ. Цяпер нам зразумела, чаму ў Расіі нельга выпісаць газеты і часопісы на беларускай мове, а рускіх газет і часопісаў мноства ў Беларусі. Чаму не зрабіць так: колькі назваў газет і часопісаў рускіх дазволена выпісваць у Беларусі, столькі беларускіх -- у Расіі.

Але ж звернемся да артыкула аб мове. Давайце адкрыем Беларускую савецкую энцыклапедыю. У 7 томе гаворыцца: "Натуральная знакавая сістэма, якая з'яўляецца галоўным сродкам зносін і прагрэсу мыслення ў чалавечым калектыве. З дапамогай мовы пазнаецца навакольны свет... Мова абслугоўвае грамадства, а грамадства немагчыма без мовы... З ліквідацыяй феадальнай раздробленасці і станаўленнем нацыянальных дзяржаў узнікаюць літаратурныя мовы на шырокай народнай аснове. Гэты працэс не з'яўляецца поўнасцю стыхійным".

Мабыць беларускаму ўраду трэба прыняць такія ўмовы: "рускія школы забяспечваюцца навучальнай літаратурай і абсталяваннем Расіяй. А калі руская мова ідзе як замежная, тады на ўмовах, як замежныя мовы -- англійская, нямецкая ці французская. Літоўскія, польскія ці яўрэйскія школы, наколькі мне вядома, існуюць у Беларусі на гэтай аснове.

Давайце паглядзім на развіццё моў іншых краін. Не існуе аўстралійскай мовы (кожнае племя гаварыла на сваёй мове). У працэсе еўрапейскай каланізацыі большасць абарыгенаў вынішчана, астатнія выцеснены ў пустынныя раёны або пераселены ў рэзервацыі і там не забываюць сваёй мовы, хаця дзяржаўнай з'яўляецца англійская. З насельніцтва 17,5 мільёна чалавек абарыгены складаюць крыху больш 40 тысяч чалавек, а краіна называецца не Англіяй, а Аўстраліяй. Другі прыклад -- Індыя. Дзяржаўная мова -- мова хіндзі. З XVIII стагоддзя Індыя трапіла ў васальную залежнасць ад Англіі, і мовай гэтага народа стала англійская, але ў 1950 годзе Індыя атрымала незалежнасць, і дзяржаўнай стала мова большасці народаў, што пражываюць у Індыі.

У Канадзе пры насельніцтве 27 мільёнаў чалавек дзяржаўная мова -- англійская і французская, пры гэтым 43 працэнты -- англа-канадцы і 30 працэнтаў франка-канадцы. Кіраўніцтва Канады абавязкова павінна ведаць дзве мовы, каб размаўляць з насельніцтвам на іх роднай мове.

Кацярына I -- імператрыца ўсерасійская з літоўскай сям'і, стаўшая жонкай Пятра I, размаўляла на рускай мове, а Кацярына II -- жонка Пятра III -- выйшла з беднага нямецкага княжацкага роду, але ж і яна вывучыла рускую мову. З якой нагоды я аб гэтым гавару? Мне не зразумела, як можна размаўляць з беларускім народам не на яго мове. Няўжо Беларуссю кіруюць прышэльцы, як у Аўстраліі?! А можа да ўлады прыйшлі людзі, якія не здольны вывучыць мову народа, з асяроддзя якога яны выйшлі?! Пацікаўцеся, што ведаюць беларусы аб гісторыі сваёй краіны -- так як яе (гісторыю) мы не вучылі. Затое добра ведаюць гісторыю другой дзяржавы. Многа ведаем пра Суворава і амаль нічога пра Кастуся Каліноўскага, Агінскі стаў не палякам і беларусам, а рускім. Няўжо мы, беларусы, такія бяспамятныя, што не зможам авалодаць сваёй мовай. Любы чалавек, які паважае сябе, павінен паважаць мову і культуру краіны, на тэрыторыі якой ён жыве. Паглядзіце: цыгане, аб якіх мы многа гаворым, невукі. Але ж гэтыя невукі гавораць на сваёй мове і мове таго народа, сярод якога яны жывуць (а школ цыганскіх няма). А давайце прасочым шлях нашых эмігрантаў, што жывуць за кардонам. Яны абавязкова авалодваюць мовай той краіны, на тэрыторыі якой жывуць, і не забываюць сваёй мовы. Дык чаму ж людзі, пражыўшы 70 гадоў сярод беларускага народа або сваіх родзічаў, не валодаюць мовай гэтага добрага, працавітага народа? Мне ўспамінаецца такі выпадак. У нашай школе працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры руская (са Смаленшчыны) Ганна Сямёнаўна, але ж яна вывучыла беларускую мову так, што дырэктар школы і райана дазволілі ёй выкладаць рускую і беларускую мовы і літаратуру.

У сучасны перыяд у мяне многа сяброў сярод рускіх, татараў, башкір. Паглядзіце, колькі часу яны жывуць у Расіі, а сваёй мовы, звычаяў і культуры не страцілі. Бо яны ведаюць: калі не будзе мовы, не будзе і нацыі. Народ растворыцца, як цукар у вадзе. Вада застанецца, а цукру не стане. Сябры часта называюць мяне "сябра" або "бульбаш", а я гэтым ганаруся. Часта просяць мяне пагаварыць па-беларуску або пачытаць газету ці кніжку. Дзякуй "Голасу Радзімы" -- адзінай газеце, якую я атрымліваю на беларускай мове. І робяць дакор, чаму вы, беларусы, не размаўляеце на сваёй мове, яна такая мяккая, простая і зразумелая. Англійскую вучыце, а сваёй не ведаеце. А хто можа быць распаўсюджвальнікам мовы? Школа, навучальныя ўстановы і кіраўнікі зверху данізу (мясцовыя ўлады).

Па расійскаму радыё перадалі, што ў Віцебску створаны казацкі атрад разам з атаманам. Нешта мы не ўспомнілі з гісторыі Беларусі, каб на яе тэрыторыі жылі казакі. Ці можа віцебскія ўлады такім шляхам імкнуцца ўтрымаць рускія школы. Няўжо ў Віцебску не знайшлося людзей, якія хацелі б вучыць сваіх дзяцей мове сваіх бацькоў і дзедаў?! Праўду гавораць: "Які ты рускі, калі не ведаеш рускай мовы?", а мне хочацца дапоўніць: "Які ты беларус, калі не ведаеш беларускай мовы?"

А калі няма мовы -- няма і народа. Паглядзіце: маленькі (па колькасці) эстонскі народ змог адстаяць і захаваць сваю мову, сваю дзяржаву. Дык што ж сталася з беларускім народам, што ён так скора пачаў забываць свае карані. А без каранёў расліна гіне. Няўжо гэтак жа загіне і наша беларуская мова?!

Паслы прыязджаюць у Беларусь і ведаюць беларускую мову, а мы?

З павагай былы жыхар Беларусі

**У. АГАЦІН.**

Расія.

**P.S. Сёння нядзеля, мы глядзелі чэмпіянат свету па біятлону. Эстафета 4x7,5 кіламетра, мужчыны. І плакалі ад радасці. Трэцяе месца. А быў бы СССР -- хто ведаў бы Беларусь!!**

**Божа наш, ратуй нашу родную, чыстую, незаплямленую Белую Русь!**

# НЕ ВАРТА ГРУКАЦЬ ДЗВЯРЫМА

Калі чытаеш "Голас Радзімы" і ангельскія газеты, пісьмы з Бацькаўшчыны, душа напаўняецца страхам, бо незалежнасць і суверэннасць Беларусі знаходзяцца пад антыбеларускай прапагандай з боку расійскіх і беларускіх камуністаў, якія захапілі ўладу ў Беларусі і паставілі сабе мэту: ліквідаваць незалежную і суверэнную Беларусь. Ці ж не хапае прыкладаў і фактаў, калі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь дэпутаты выносяць прапанову ліквідаваць беларускія нацыянальныя сімвалы, прызнаць статус расійскай мовы як дзяржаўнай. Паводле Канстытуцыі, беларуская мова павінна быць дзяржаўнай. Па сённяшні дзень беларускае слова не пасунулася ані кроку наперад ды церпіць насмешкі, абразы з боку камуністаў. Мала гэтага, Рэспубліка Беларусь не мае свайго нацыянальнага гімна, спяваюць з радасцю гімн неіснуючай дзяржавы БССР.

Ліквідуючы крок за крокам суверэннасць і незалежнасць Рэспублікі Беларусь, маскоўскія і беларускія камуністы знаюць добра справу, што беларускі народ ёсць скамунізаваным і зрусіфікаваным народам, таму ліквідацыя незалежнасці і суверэннасці і аб'яднання з Расійскай Федэратыўнай рэспублікай не выкліча збройнага супраціву з боку беларусаў. Зрэшты, беларусы не маюць сваіх збройных сілаў. Тыя збройныя сілы -- гэта ж не што іншае, як расійскае войска, а толькі на паперы называюць "Беларускія Збройныя Сілы", якія пад камандаю расійскіх афіцэраў.

Што ж на такую анархію кажуць нашы дзеячы на Бацькаўшчыне? Нічога! Бо муравановай сцяны галавою не прабіць! Нашыя беларускія палітычныя партыі не ёсць аб'яднанымі. Што партыя, то і новы розум, новы статут, новы маніфест. Па-другое, партыі малалікія, не маючыя беларускіх лідэраў-патрыётаў. Знайшоўся З.Пазьняк, здаецца, адзін з лепшых беларусаў. Арганізуючы Беларускі народны фронт, спадзеючыся, што за ім пойдуць масы, БНФ зрабіў велізарную памылку. Выскачыў далёка наперад, забываючыся пра палітычны, эканамічны і рэлігійны ўхіл беларускага народа да Масквы. Не вырваць з яго душы і праваслаўную веру ды замяніць яе на уніяцкую, як гэта заявіў З.Пазьняк. Вырваць з душы беларускага народа праваслаўе ёсць так немагчыма, як вырваць з польскага народа каталіцызм.

Вось апошнім часам наведалі Англію Грыб, спікер Вярхоўнага Савета Беларусі, Н.Гілевіч, група дэпутатаў ды сам З.Пазьняк. Усе яны былі прыняты і сустрэты пасольствам Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі і Згуртаваннем беларусаў у Вялікабрытаніі. Згуртаванне беларусаў і пасольства Рэспублікі Беларусь горача сустракалі і частавалі дарагіх гасцей з Беларусі. На сталах хапіла закускі і напіткаў. Што ж добрага госці з Беларусі прывезлі беларусам у Англію? Нічога! Пагутарылі, выпілі, закусілі, і гэта ўсё! Нават не выдалі камуніката, пра што гутарылі і што пастанавілі. Праўда, З.Пазьняк быў афіцыйна запрошаны ангельскім урадам. На прэс-канферэнцыі заявіў: калі выйграе парламенцкія выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, дык парве сувязі з Масквою, а павяжа Беларусь з Захадам і выведзе яе з арганізацыі СНД. Не гавары гоп, калі не пераскочыў, кажа беларуская прымаўка.

Хай жа Беларусь здабудзе поўную незалежнасць і суверэннасць, яна не павінна зачыняць дзвярэй на Усход, а адчыняць на Захад. Беларускі народ павінен жыць у згодзе з усімі суседнімі народамі. Беларускі ўрад можа падпісваць эканамічныя, культурныя ўмовы з Расійскай Федэрацыяй, абы толькі на аснове незалежнасці і суверэннасці беларускай дзяржавы. Незалежнасць і суверэннасць павінна быць коранем дзяржавы. Усякія непаразуменні з суседзямі як на Усходзе, так і на Захадзе трэба ліквідаваць перагаворамі.

**С.ШЧЭРБА.**

Англія.

**АДРОДЖАНЫ ІХ ІМЁНЫ**

# БЕЛАРУСКІЯ АХВЯРЫ Ў ЯКУЦІІ

**КОРСАК** Франц Ігнацьевіч, 1883 г.н., Віцебская губерня, беларус, беспартыйны, 24.03.1938 г., г. Алдан.

**N 4**

**ЛАПЕКА** Кірыла Пятровіч, 1895 г. н., Беларуская ССР, Асвейскі раён, беларус, беспартыйны, 5.01.1938 г., Алданскі раён.
**МІНКЕВІЧ** Сяргей Савіч, 1903 г. н., Польшча, Віленская губерня, вёска Казяны, беларус, беспартыйны, 5.02.1937 г., г. Якуцк.
**МІЦКЕВІЧ-ЛІСІЦКІ** Мікалай Нікіфаравіч, 1892 г. н., Польшча, паляк, беспартыйны, 5.10.1937 г., г. Якуцк.
**ЛУК'ЯНЕНКА** Іван Данілавіч, 1908 г. н., БССР, Гомельская вобласць, Камарынскі раён, беларус, беспартыйны, 7.01.1937 г., г. Алдан.
**МАРКУН** Вікенцій Андрэевіч, 1890 г. н., Польшча, Кронская воласць, вёска Войкава, літовец, былы член ВКП(б), 3.05.1936 г., г. Вілюй.
**МАШЫЦ** Емяльян Васільевіч, 1894 г.н., БССР, Ельска-Кароменскі раён, беларус, беспартыйны, 17.11.1937 г., г. Якуцк.
**МЯЛЕШКА** Сямён Сідаравіч, 1903 г.н., Польшча, в. Камень, беларус, былы член ВКП(б), 1.5.1938 г.н., г. Алдан.
**МЕЛЬНІК** Шалом Гершкавіч, 1899 г.н., Польшча, г. Высокі-Літоўскі, яўрэй, член ВКП(б), 11.11.1937 г., г. Якуцк.
**МЕЛЬНІКАЎ** Хведар Кірылавіч (ён жа Мельнік Хведар Іванавіч), 1904 г.н., Слуцкі павет, Сілінская воласць, вёска Герасімаўка, украінец, беспартыйны, 5.5.1938 г., г. Якуцк.

**N 5**

**МІНКЕВІЧ** Іван Мартынавіч, 1884 г.н., Літоўская ССР, Ковенская губерня, г. Відза, літовец, беспартыйны, 30.5.1932 г., г. Якуцк.
**МІСКА** Уладзімір Уладзіміравіч, 1911 г.н., Польшча, г. Соніш, беларус, беспартыйны, 5.9.1937 г., г. Якуцк.
**МІХНЕВІЧ** Пётр Язэпавіч, 1904 г.н., Польшча, г. Вільня, беларус, беспартыйны, 21.6.1938 г., г. Якуцк.
**МІЦКЕВІЧ** Філіп Уладзіміравіч, 1897 г.н., Беларуская ССР, г. Петрыкаў, беларус, беспартыйны, 17.2.1937 г., г. Якуцк.
**МАЙСЕЕНАК** Аляксандр Раманавіч, 1891 г.н., Беларуская ССР, Бягомльскі раён, беларус, беспартыйны, 27.12.1937 г., г. Алдан.
**МАРОЗАЎ** Кірыла Сцяпанавіч, 1903 г.н., Беларуская ССР, Гомельская акруга, беларус, беспартыйны, 31.10.1929 г., г. Алдан.
**НІКІЦІН** Антон Мікалаевіч, 1888 г.н., Беларуская ССР, горад Магілёў, беларус, беспартыйны, 7.10.1941 г., пасёлак Алах-Юн.

**N 6**

**АРЛОЎ** Уладзімір Аляксандравіч, 1904 г.н., Беларуская ССР, г. Рагачоў, рускі, беспартыйны, 17.6.1942 г., г. Якуцк.
**ПАЕНК** Антон Янавіч, 1893 г.н., Польшча, г. Белая, паляк, беспартыйны, 18.7.1942 г., г. Алдан.
**ПЕТРЫШЧЭ** Казімір Казіміравіч, 1894 г.н., Беларуская ССР, Полацкая вобласць, беларус, беспартыйны, 27.12.1937 г., г. Алдан.

**N 8**

**ПРЫХОДЗЬКА** Пракоп Міхайлавіч, 1894 г.н., Беларуская ССР, Калінкавіцкі раён, беспартыйны, беларус, 27.12.1937 г., г. Якуцк.
**РАДАШЭЎСКІ** Пётр Іванавіч, 1901 г.н., Украінская ССР, Ушыцкі раён, беларус, беспартыйны, 28.12.1938 г., г. Алдан.
**РЫМАШЭЎСКІ** Іосіф Іосіфавіч, 1902 г.н., Беларуская ССР, Кобельскі раён, беларус, беспартыйны, 6.1.1938 г., г. Алдан.
**РУДКОЎСКІ** Іосіф Францавіч, 1885 г.н., Польшча, паляк, беспартыйны, 27.12.1936 г., г. Якуцк.

**N 9**

**САМОТНЯ** Аляксандр Лук'янавіч, 1901 г.н., Беларуская ССР, в. Крывая Сека, паляк, беспартыйны, 5.1.1938 г., г. Алдан.
**СЯРГЕЕЎ** Фоцій Сяргеевіч, 1890 г.н., Марозаўская воласць, Смаленская вобласць, рускі, беспартыйны, 8.3.1938 г., г. Якуцк.
**СІВЕЦ** Антон Юзэфавіч, 1880 г.н., Польшча, паляк, беспартыйны, 15.11.1937 г., г. Алдан.
**СІНІЦКІ** Аляксандр Іванавіч, 1891 г.н., Беларуская ССР, беларус, беспартыйны, 19.11.1937 г., г. Якуцк.

**N 10**

**САСНОЎСКІ** Ісай Веніямінавіч, 1868 г.н., Польшча, г. Саколка, яўрэй, беспартыйны, 6.11.1938 г., г. Якуцк.
**СТАНКЕВІЧ** Уладзіслаў Іванавіч, 1897 г.н., Беларуская ССР, Нараўлянскі раён, в. Кустаўніца, беларус, беспартыйны, 27.12.1937 г., Алданскі раён, Верхне-Сталінскі прыіск.
**СТЭЛЬМАХ** Міхаіл Ільіч, 1901 г.н., Беларуская ССР, в. Петрыкава, беларус, беспартыйны, 24.6.1941 г., Алданскі раён, пасёлак Верхне-Сталінскі.
**СЦЯПАН** Пётр Пятровіч, 1911 г.н., Латвія, г. Мадан, латыш, беспартыйны, 21.7.1938 г., г. Якуцк.

**N 11**

**ФЯДУЛІН** Аляксандр Парфёнавіч, 1914 г.н., Смаленская вобласць, Кіславіцкі раён, Калеснікі, рускі, беспартыйны, 12.9.1949 г., п. Ціксі.
**ФЕЛЕМОНАЎ** Мікалай Рыгоравіч, 1884 г.н., Мінская вобласць, г. Бабруйск, рускі, беспартыйны, 10.3.1933 г., г. Якуцк.
**ФРЫДЛАНД** Саламон Міхайлавіч, 1894 г.н., Гродненская губерня, Слонімскі павет, яўрэй, беспартыйны, 29.1.1938 г., г. Якуцк.
**ЦЫНГЕЛЬ** Уладзімір Станіслававіч, 1887 г.н., Беларуская ССР, Полацкая акруга, в. Сандыры, беларус, беспартыйны, 17.12.1938 г., Алданскі раён, пасёлак Верхне-Сталінскі.
**ЦЫБУЛЬКА** Мікалай Паўлавіч, 1928 г.н., Мінская вобласць, Смалявіцкі раён, в. Судабоўка, рускі, беспартыйны, 15.11.1958 г., г. Якуцк.

**N 12**

**ЧАШНЕЎСКІ** Іван Пятровіч, 1897 г.н., Польшча, г. Люблін, паляк, беспартыйны, 29.4.1942 г., Алданскі раён, пасёлак Лебядзіны.
**ШАЎЛІС** Іосіф Казіміравіч, 1897 г.н., Польшча, паляк, 11.3.1937 г., г. Якуцк.
**ШАТКОЎСКАЯ** Марыя Янаўна, 1896 г.н., Польшча, полька, беспартыйная, 10.4.1942 г., г. Якуцк.

**Пераклад з якуцкай мовы і публікацыя Алеся БАРКОЎСКАГА.**

---

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 12.**

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

# БАРЫСУ КІТУ — 85 ГАДОЎ



**Імя Барыса Кіта ўзбагаціла нашу нацыянальную гісторыю. Але доўгія гады яно нават не згадвалася на Бацькаўшчыне, і мы не ведалі пра важкі ўклад вучонага ў сусветную астранаўтыку.**

**Барыс Кіт -- матэматык, фізік, хімік, доктар філасофскіх навук у галіне матэматыкі, акадэмік Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі і сябра многіх і многіх навуковых таварыстваў, камітэтаў і г.д.**

**Барыс Кіт -- шчыры беларус, наш зямляк, вясёлы, жыццярадасны, спагадлівы, інтэлігентны чалавек, які заўсёды адчуваў сябе часцінкай сваёй Радзімы, разлуку з якой перажываў тужліва і горка.**

**Сёлета 6 красавіка Барысу Кіту споўнілася 85 гадоў.**

**З гэтай нагоды юбіляра віншуюць рэдакцыя газеты "Голас Радзімы", Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Міжнародны камітэт беларусістаў.**

**Жадаем дарагому Барысу Уладзіміравічу доўгіх год жыцця, моцнага здароўя, бадзёрасці, радасці, шчырых сяброў і новых сустрэч з Бацькаўшчынай.**

**г. Мінск.**

**НА ЗДЫМКУ: Барыс КІТ у Навагрудскім краязнаўчым музеі летам 1994 года.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## ТРЭЦІ КІТ

*Я не здрадзіў беларускаму народу ані кроплі, ніколі.*

**Барыс КІТ,**
**акадэмік Сусветнай**
**Акадэміі Астранаўтыкі,**
**грамадзянін ЗША.**

**Да Наваградка на фурманцы**
**З Агароднікаў**
**Бацька вёз.**
**Сын жа выдумаў**
**Гэткі авёс,**
**Што на Месяц цікаўных вёз**
**На ракеце,**
**Як на ліхаманцы.**

**Агароднікі...**
**Як і Дубоўка,**
**Сэрца на адчай накалоў...**
**Ад наваградскіх дужых муроў**
**Рэштка літарай А,**
**Каб зноў**
**Маладзіла Айчыну абноўка.**

**Кітаваць трэба гэтак вокны**
**Беларускае хаты,**
**Каб**
**Воўкам вечар сіберны зяб,**
**Каб з суседскіх галодных зяп**
**Вырываўся зайздросны войкат.**

**Беларусам ды беларускам**
**Запрашаў**
**Неба думкі на дол.**
**...Як на Месяцы,**
**Пуста наўкол...**
**...Сцішыўся ў рыштаваннях**
**Касцёл,**
**Што касмічны воз**
**Перад пускам...**

**Па міжзорнай раллі разбрыліся**
**Мроі.**
**А Беларушчыны птах**
**Да руінаў не згубіць шлях.**

**Як зямля ўся**
**На трох кітах,**
**Беларуская --**
**На Барысе!**

# СПАДЗЯВАЙЦЕСЯ: "АЛЬВЕНА" ВЫРУЧЫЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Таксама можна "прывязацца" да валютнага курсу нацыянальнага банка і ўносіць плацяжы ў залежнасці ад змянення курсу, з тым каб, нягледзячы на інфляцыю, страхавая сума заставалася на адным узроўні.

**-- Ці працуе ваша кампанія з валютай?**

-- Так, бо сёння гэта самае простае і самае разумнае. Наша кампанія мае больш ліцэнзій на розныя віды страхавання, чым, напрыклад, Беліндзяржстрах. Абавязковай умовай для ўезду ў многія краіны з'яўляюцца наяўнасць медыцынскай страхоўкі. Мы ажыццяўляем гэтую паслугу як для тых, хто выязджае, так і для тых, хто ўязджае ў Беларусь. Хаця, хачу заўважыць, мы працуем не толькі з валютай. Наша кампанія ажыццяўляе пенсійнае страхаванне, якое па кішэні не вельмі заможным людзям, і колькасць тых, хто ўжо загадзя хоча паклапаціцца аб сваёй старасці, расце. Таксама ў нас ёсць рытуальнае страхаванне, якое ў выпадку смерці чалавека пакрывае ўсе выдаткі, звязаныя з гэтай сумнай падзеяй.

**-- Як складваюцца вашы адносіны з замежнымі кліентамі?**

-- Заходнія кампаніі з асцярогай ступаюць на наш рынак, але супрацоўнічаць усё ж такі пачынаюць, бо разумеюць, што будучыня за тымі, хто прыйдзе сюды першым, хто працуе, а не чакае, калі складуцца больш спрыяльныя ўмовы. Ад нас яны чакаюць надзейнасці, узаемадзеяння і прафесіяналізму. Дарэчы, ужо зараз у нас наладзіліся вельмі добрыя адносіны з заходнімі кампаніямі. Часам для заключэння пагаднення дастаткова слоў "рызыка прынята" (гэта значыць, што мы ўзялі на сябе пэўныя абавязкі).

**-- На Захадзе страхавыя кампаніі маюць сваіх дэтэктываў, якія разбіраюцца з выпадкамі, што выклікаюць падазрэнні. Ці ёсць такая служба ў вас і ці ўзнікаюць сітуацыі, якія патрабуюць расследавання?**

-- Махлярства з боку кліентаў у страхаванні сустракалася заўсёды. Існуюць дзесяткі спосабаў ашукаць страхавую кампанію, я не буду падрабязна расказваць пра іх, бо гэта будзе ўжо адукацыяй жулікаў. Скажу толькі, што самы просты і распаўсюджаны від махлярства -- прыпіскі пры састаўленні калькуляцыі на рамонт аўтамабіля. Але мы ведаем і гэты спосаб, і многія іншыя, хаця геніяльныя розумы ўвесь час імкнуцца вынайсці нешта новае. Так, на Захадзе страхавыя кампаніі сапраўды ці маюць сваю ўласную дэтэктыўную службу, ці звяртаюцца да незалежных спецыялізаваных дэтэктыўных агенцтваў, якія праводзяць для іх расследаванні. У нас, на жаль, такой службы пакуль няма, але мы маем сваю юрыдычную службу, і нашы спецыялісты таксама могуць добра разабрацца з падазронымі выпадкамі.

**-- Хто ў вас працуе, і па якіх прынцыпах вы набіраеце людзей?**

-- Мы зараз не імкнёмся ўзяць на працу прафесійных страхавых агентаў. Нам, у першую чаргу, патрэбны людзі, якія ўмеюць думаць, аналізаваць канкрэтную сітуацыю, імкнуцца навучыцца новаму, і перш за ўсё, прыстойныя і сумленныя. Спадзяёмся, што такія людзі змогуць змяніць стаўленне да страхавання. Да таго ж, у нас ужо склаўся круг пастаянных кліентаў, якія, застаўшыся задаволенымі нашым супрацоўніцтвам, параілі кампанію сваім сябрам, тыя ў сваю чаргу -- яшчэ некаму, і гэтак далей. Канешне, сёння не самы просты час, але некаму ж трэба пачынаць. Мы спадзяёмся, што страхавая кампанія "Альвена" будзе добра працаваць на беларускім рынку і набудзе шмат новых кліентаў.

**-- Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# "ПРЫЙДЗЕ ТОЙ ЧАС — ДА СВАІХ Я ВЯРНУСЯ..."

Гэтыя радкі я ўзяў з верша таленавітага беларускага паэта, празаіка, публіцыста, выдаўца і палітыка Уладзіслава Казлоўшчыка (сапраўднае прозвішча Казлоўскі). Час той, відаць, да нас прыйшоў, каб вярнуць яшчэ адно забытае ў беларускай літаратуры і гісторыі імя.

Беластоцкая газета "Новая Дарога" 12 снежня 1943 года пісала: "Дня 13 лістапада 1943 года ў Менску, пры выкананьні сваіх нацыянальных абавязкаў, трагічна загінуў ад рук нікчэмных бальшавіцкіх бандытаў рэдактар "Беларускае Газэты" Уладыслаў Казлоўскі, народжаны ў 1896 годзе ў вёсцы Запесьсе Сакольскага павету. Паховіны адбыліся дня 22 лістапада на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках у Менску. Падаючы гэтыя сумныя факты да ведама грамадзянства, рэдакцыя "Новай Дарогі" выказвае сваё глыбокае спачуцьцё асірочанай сям'і нябожчыка. Чытачы й рэдакцыя "Новай Дарогі".

Сапраўды, у лістападзе 1943 года нехта Іван Шнігер зайшоў у рэдакцыю "Беларускай Газэты" і стрэліў ва ўпор з пісталета ў яе рэдактара. Стрэл пачула Наталля Арсеннева, якая выбегла з суседняга пакоя і закрычала: "Трымайце, трымайце яго! Гэта той бандыт, які забіў спадара Казлоўскага". Але было ўжо позна...

Тысячы беларусаў праводзілі ў апошні шлях нашага здольнага літаратара. Часопіс "Новы шлях" адзначыў тады, што Уладзіслаў Казлоўшчык "стаўся чароднай ахвярай бандыцкага тэрору на Беларусі і загінуў як жаўнер пры спаўненьні сваіх абавязкаў".

Дзяцінства Уладзіслава Казлоўскага прайшло на Беласточчыне ў роднай вёсцы Запессе. Пачатковую і сярэднюю адукацыю ён набыў у Саколцы і ў Гродне.

У 1916 годзе наш зямляк паступае ў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. А калі заснавалася ў Вільні беларуская вайсковая арганізацыя, пакідае семінарыю з мэтай паступіць у беларускае нацыянальнае войска. Адначасова ён запісваецца на кароткачасовыя беларускія настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны, пасля заканчэння якіх накіроўваецца ў Сакольскі павет, дзе прымае ўдзел у арганізацыі беларускіх школ.

Пасля няўдалых у гэтым накірунку спробаў, з прычыны негатыўных адносін тагачасных павятовых школьных улад, Уладзіслаў Казлоўскі вяртаецца ў Вільню. А калі заснавалася ў Мінску Беларуская вайсковая камісія, пераязджае ў Мінск.

У пачатку 1920 года ён працуе інструктарам беларускага нацыянальнага камітэта па пытаннях арганізацыі нацыянальнага і кааператыўнага жыцця ў Ігуменскім павеце. А ў маі гэтага ж года Беларускай вайсковай камісіяй ён высылаецца ў Варшаўскую школу падхарунжых.



Пасля заканчэння ваеннай школы Уладзіслаў Казлоўскі прызначаецца інструктарам у Першы батальён беларускіх стралкоў, які ўжо быў эвакуіраваны з Мінска ў Лодзь. Праўда, праз год у сувязі з ліквідацыяй беларускіх аддзелаў пераводзіцца ў польскае войска як кадравы афіцэр.

Будучы паручнікам чыннай службы, У. Казлоўскі не парывае сувязі з беларускім нацыянальным рухам. А ў 1930 годзе звальняецца са службы і пераязджае ў Вільню. Тут ён поўнасцю аддае сябе творчай працы і палітыцы. Спачатку арганізоўвае гімнастычнае таварыства "Гайсак", пасля з'яўляецца выдаўцом і рэдактарам часопіса "Новы шлях" і адначасова адным з арганізатараў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі.

У гады вайны У. Казлоўскі ў акупіраваным немцамі Мінску рэдагуе "Беларускую (Менскую) Газэту"...

Першыя творы Уладзіслава Казлоўшчыка з'явіліся ў друку ў 20-х гадах. Гэта былі публіцыстычныя артыкулы на спартыўныя тэмы. Тады і выходзяць у свет яго першыя кнігі "Фізічнае выхаваньне грамадзянства" (1927 г.) і "Аб фізічным выхаваньні ў беларусаў" (1928 г.).

У 1930 годзе ён актыўна супрацоўнічаў з часопісам "Шлях моладзі", дзе вёў рубрыку "Куток для спорту". Сам пісаў спартыўныя артыкулы, рэпартажы і друкаваў на старонках гэтага часопіса. Значны рэзананс у той час мелі яго матэрыялы "Рухавыя гульні і ігры" (N 3, 1930 г.), "Аб нямецкай гімнастычнай сістэме" (N 5, 1930 г.), "Ход-спацыр" (N 6, 1930 г.), "Плаваньне" (N 7, 1930 г.) і многія іншыя.

Адначасова са спартыўнымі артыкуламі добра пісаліся і літаратурныя творы. З друку выходзяць яго кнігі "Беларускія народныя песьні з Сакольскага павету" (1930 г.), "Плач Беларускай Старонкі-маткі па дзетках сваіх рэнегатах" (1930 г.), вершаваны раман "Путы каханьня" (1932 г.), зборнік паэзіі "Шляхам змаганьня" (1935 г.), вершаванае апавяданне "Казюк на кірмашы" (1940 г.).

У сваіх вершах і празаічных абразках Уладзіслаў Казлоўшчык часцей за ўсё звяртаўся да беларускай моладзі. Яго верш "Песьня беларускай моладзі" быў тады нават гімнам беларускіх юнакоў і дзяўчат. Дарэчы, і музыку напісаў сам аўтар.

Патрыятычная паэзія і проза беларускага літаратара з Беласточчыны -- гэта заклік да незалежнасці і адраджэння Беларусі. Ён смела і аддана заклікаў свой народ ісці шляхам змагання, а тых, хто "на печы ў кажуху" сядзіць, "хай волі гром грыміць і будзіць, што дрэмлюць". Паэт шчыра верыць у Беларусь і ў крывіцкі дух, а таксама спадзяецца, што "прыйдзе той час -- да сваіх я вярнуся і ў Маткі я Роднай кутка папрашу".

Творчасць Уладзіслава Казлоўшчыка праз паўстагоддзя вяртаецца да яго землякоў, вяртаецца на Беларусь, дзеля якой ён жыў, тварыў і змагаўся.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

**Уладзіслаў КАЗЛОЎШЧЫК**

## БУДЗЕШ НЕЗАЛЕЖНАЙ

**Няшчасныя дзеі Цябе гартавалі**
**І сілу давалі ў нядолі бязьмежнай --**
**Ты мусіш паўстаці мацнейшай ад сталі**
**І быць незалежнай.**
**Хаця б Цябе пекла ўсе сілы таптали,**
**Трымалі ў няволі рукою жалезнай --**
**Ты мусіш паўстаці мацнейшай ад сталі**
**І быць незалежнай.**
**Раней ці пазьней Ты зьбярэш**
**свае роты**
**І пойдзеш у бой аканчальны,**
**вызвольны.**
**Тады сьвет пачуе маланкі-грымоты**
**З пярунаў, што пусьціць народ**
**паднявольны;**
**І злыдняўску страшну пачуе**
**сьвет зьвягу,**
**І зьдзіўлена ўбачыць працоўных**
**адвагу,**
**Што сьцяг свой крывавы**
**адважна паднялі**
**І пліту нядолі звалілі жалезну.**
**Тады Ты паўстанеш мацнейшай**
**ад сталі,**
**Каб быць незалежнай.**

*1934 г.*

## ХАЙ НАМ ЖЫВЕ...

**Хай нам жыве Беларусь дарагая,**
**Сьмела да волі ідзе.**
**Мэты сваёй хай хутчэй дасягае,**
**Люд свой да шчасьця вядзе.**

**Мы за Цябе, наша родна Краіна,**
**Сэрцам, душой стаімо,**
**А як надойдзе патрэбна хвіліна --**
**Сьмела жыцьцё аддамо.**

**Мы -- дзеці працы. Ня страшны**
**нам хмары.**
**Усім мы дамо, хто што варт.**
**Жыцьцё патрапім злажыць**
**на аўтары,**
**Бо ў сэрцы ў нас -- волі гарт.**

**Дык, брацьця, сьмела ідзём**
**мы наперад,**
**Куйма адважна свой лёс!**
**Доўгай нядолі парвём стары нерат,**
**Што мохам крыўды парос.**

**Буры стагодзьдзяў нас загартавалі.**
**Беды для нас моц далі.**
**Нас не зальюць ўжо варожыя хвалі --**
**Мы стаімо пры рулі.**

**Дык хай жыве Беларусь дарагая,**
**Сьмела да волі ідзе.**
**Мэты сваёй хай хутчэй дасягае,**
**Люд свой да шчасьця вядзе.**

*1935 г.*

## ПАГОНЯ

**Ляціць Крывіцкая Пагоня**
**Праз горы, рэкі і лясы,**
**Праз мора, акіяны, нават**
**На хмары пнецца ў небясы.**

**А гэтай слаўнае Пагоні**
**Ніхто ня можа упыніць,**
**Бо дух Крывіцкага ваякі**
**З мячом агністым там сядзіць.**

**І гэны меч падняў высока,**
**Прыціснуў шпорамі каня,**
**І дзесьці прэцца ён далёка,**
**Аж стогне й енчыць ўся зямля.**

**Куды-ж сьпяшыць Пагоня наша!**
**Каго дух-рыцар хоча біць!**
**Над кім памсьціцца хоча строга,**
**Што так імчыць, аж ня спыніць!**

**Маскаль, ці Лях яго угневіў,**
**Татарын скрыўдзіў, ці Крыжак,**
**Грунвальдскую пабеду можа**
**Прыпомніў ён і гоніць так!**

**О не, працоўны ты мой дружа,**
**Ня тым наш рыцар заняты:**
**Імчыцца ён у край пакутны,**
**Там, дзе жывуць яго браты.**

**Сьпяшыць Крывіцкі рыцар з неба**
**Ў старонку, скавану ў ланцуг,**
**Распутаць хоча ёй Пагоню,**
**Ў жывых братох -- збудзіць**
**там дух.**

*1935 г.*

# НЕ ТРЭБА ПРЫБЯДНЯЦЦА!

**(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).**

Дзякаваць Богу, што гэткае бессаромнае пашахонскае дзівацтва не захапіла ядро нацыі і тым больш ягоную інтэлектуальную эліту.

Арганізатары сёлетняга кінапарада запрасілі нас узначаліць журы: Р.Барадулін стаў старшынёй групы (з дзевяці чалавек, у тым ліку двух маскоўскіх кінакрытыкаў) экспертаў ігравога кіно, а я -- старшынёй журы (з трох чалавек) дакументальных фільмаў (маімі калегамі былі кандыдат мастацтвазнаўства Ніна Фральцова і рэжысёр-аператар Венедыкт Арлоў). Было, верагодна, некалькі матывацый запрашэння ў кіножуры двух літаратараў. Папершае, для аб'ектыўнасці быў патрэбны погляд з боку людзей, якія хоць і не нележаць да цэху (па-цяперашняму -- "гільдыі") кінакрытыкаў, аднак маюць дачыненне да беларускай мастацкай культуры: Р.Барадулін -- не толькі паэт, ён аўтар шэрагу кінасцэнарыяў, а поле майго даследавання -- эстэтыка і беларуская культура.

Мабыць мы выконвалі яшчэ адну ролю ў нашай зрусіфікаванай Беларусі: былі "беларускім каларытам" у рускамоўным кінематаграфічным асяроддзі. Адлучанасць нашага кінематографа ад беларускага культурнага кантэксту выявілася не толькі ў большасці ігравых фільмаў (маю на ўвазе пераважна моўны аспект, бо ў спецыфічна кінематаграфічных выяўленчых сродках захаваліся прыкметы рэгіянальна-беларускага менталітэту), але і ў рэалізацыі сцэнарыя фестывалю: пачынаючы ад праграмаў і каталога фільмаў 1992—1994 гадоў, канчаючы дыскусіямі і заключнымі імпрэзамі -- усё, за рэдкім выключэннем, рабілася на расійскай мове. Па-беларуску быў запісаны персанальны склад журы. Дзякуй, як кажуць, і за гэтую "малую лепту". Лепшыя справы ў дакументальным кіно, пра што гаворка яшчэ будзе. Тут нават праграма надрукавана на дзвюх мовах: на асноўнай -- расійскай і ў дужках -- на беларускай. Як ні кажы, а ўсё-такі дань тутэйшаму каларыту.

Не думаю, што нашыя калегі-кінематаграфісты зрабілі гэта, каб дагадзіць двум прадстаўнікам Расіі ў журы. Дарэчы, калі на абмеркаванні аператар Фелікс Кучар падняў праблему мовы ў кіно, справядліва адзначыўшы, што лепш ужо паказваць рускамоўны арыгінал, чым беларускую копію-дубляж, то аўтарытэтны маскоўскі кіназнаўца Ірына Шылава заклікала: гаварыце на сваёй роднай мове, бо нават мы мову выдатнага пісьменніка Алеся Адамовіча разумеем. Корань праблемы, відавочна, у іншым: у нястачы волі для стварэння самабытнага беларускага кінамастацтва, якое магло б зацікавіць не толькі мясцовую, але і замежную публіку. І не толькі публіку расійскую, але і грузінскую, украінскую, літоўскую, польскую, урэшце, заходнееўрапейскую, азіяцкую, афрыканскую.

Ёсць тут, так бы мовіць, "змякчаючыя віну абставіны". Кіно, як справядліва казаў у свой час У.Ленін, -- самае масавае з усіх мастацтваў. Яно вымушана дапасоўвацца: раней у СССР -- да густаў партакратыі і палітычнай цэнзуры, а цяпер -- да масавага зрусіфікаванага гледача, заказчыка і "мецэната". Сярэдні абывацель у Беларусі, шматлікая грамада пенсіянераў ваенна-чыноўнага паходжання, два апошнія пакаленні зрусіфікаванай моладзі, арыентаваныя на Расію вайскоўцы, новая буржуазія, урэшце, шматлікія прышэльцы з блізкага замежжа, так званыя "наездкыя" робяць тое сілавое поле, у якім прыходзіцца выжываць кінематаграфіі Беларусі.

У гэтым асяроддзі ўсё яшчэ моцная настальгія па незабыўным савецкім "раі", усё яшчэ цепліцца надзея на адзіную эканамічную і культурную прастору, чамусьці толькі з адной Расіяй. Гэтая ілюзія прарастае не з народа ў традыцыйным сэнсе слова, а з асяроддзя псеўданароднага. Памятаю, у гады "хрушчоўскай адлігі" нас, настаўнікаў на Віленшчыне, прымусова запісалі ў агітатары: разам з вучнямі мы прыклейвалі да счарнелых сценаў сялянскіх хатаў лозунгі кшталту: "Вперед, к победе коммунизма!" А сяляне, узяўшы чарку, казалі нам: "Добрыя хлопцы вы, але, папомніце, з вашага рая, не выйдзе ні..." Як у ваду глядзелі!

Усё гэта мне прыгадалася, калі чытаў анатацыю да вельмі патрэбнага каталога "Фильмы Беларуси. 1992--1994". На думку складальнікаў, гэта "именно тот период после провозглашения независимости Беларуси, распада СССР и последовавшим вслед за этим освобождением от "диктата Центра" и давления Госкино, разрушением проката и всех статистических учетных систем". Паставіўшы ў адзін сэнсавы аспект такія неаднародныя з'явы, як абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, распад СССР і разбурэнне розных сістэмаў, аўтары С.Арцімовіч і Т.Кавалёва (дарэчы, яны памыляюцца ў даце: незалежнасць Беларусі адноўлена не ў 1991-м, а ў 1918-м) нелагічна звязваюць іх прычынна-выніковымі сувязямі, а вызваленне ад "дыктату Цэнтра" бяруць у іранічнае двукоссе. Але давайце зазірнем у яшчэ недалёкую гісторыю. СССР утварыўся

*НЕСПАЗНАНЫМІ ДАСЛЕДЧЫМІ ШЛЯХАМІ*

# ГЕРОІ ТРОХ ПАЛОТНАЎ ЯНА РУСТЭМА

Звычайна, знаёмячыся з якім-небудзь жывапісным творам, мы перш за ўсё звяртаем увагу на яго чыста мастацкія вартасці, шукаем прыкметы асаблівасцяў творчай манеры аўтара, выкарыстаных ім прыёмаў і выразных сродкаў. Выява, што змешчана на карціне, часцей за ўсё з'яўляецца для нас толькі нейкім абстрактным аб'ектам вобраза твора, пазбаўленым свайго першапачатковага най-



мення і сутнасці. Аднак іншым разам на старадаўнія партрэты, рэалістычныя відарысы або жанравыя сцэнкі мы пазіраем з затоенай цікавасцю: якімі былі тыя людзі, выявы якіх сёння прыцягваюць нашу ўвагу, як складваліся іх лёсы, куды прывялі жыццёвыя шляхі? Адказаць на гэтыя пытанні ўдаецца надзвычай рэдка, асабліва калі размова ідзе пра творы мастацтва мінулых стагоддзяў. Аднак аўтару гэтых радкоў пашчасціла. Падчас росшукаў матэрыялаў, звязаных з радаводам шляхціцаў Лапацінскіх, неспазнаныя даследчыя шляхі нечакана вывялі мяне на гісторыю герояў трох палотнаў знакамітага віленскага мастака эпохі рамантызму Яна Рустэма (1762--1835).

Размова пойдзе пра алейныя партрэты Станіслава і Марыі Шумскіх, з'яўленне якіх варта хутчэй за ўсё аднесці да мяжы першага і другога дзесяцігоддзяў XIX стагоддзя. На першым партрэце мы бачым пагрудную выяву маладога мужчыны з вялікімі задуменнымі вачыма і лёгкай усмешкай на вуснах. Тыповы партрэт прадстаўніка вышэйшых колаў тагачаснага грамадства, за якім перш за ўсё прагледаецца ўстойлівасць кампазіцыйных прыёмаў, увогуле характэрная для творчай манеры Яна Рустэма -- прафесара кафедры жывапісу Віленскага універсітэта. Аднак сама асоба Станіслава Шумскага, віленскага губернскага маршалка, небеспадстаўна названага адным з польскіх даследчыкаў "адной з самых сімпатычных постацяў на Літве ў першай палове XIX стагоддзя, уяўляецца нам досыць цікавай.

Маладосць пана Станіслава прыпала на вайну 1812 года, у якой ён браў удзел на баку арміі Напалеона Банапарта і быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага Легіёна. Бліскучы афіцэр і франдзёр, летам 1819 года ён ажаніўся са сваёй кузінай, фрэйлінай двара і надзвычай прыгожай жанчынай Марыяй з Мірскіх. Верагодней за ўсё, у хуткім часе пасля шлюбу заканадаўца мастацкіх густаў віленскіх салонаў Ян Рустэм і зпартрэтаваў маладых мужа і жонку, тым самым пакінуўшы нам два пекныя ўзоры беларускага рамантычнага партрэта.

Пра характар Станіслава Шумскага сведчыць наступны выпадак, што адбыўся з ім праз тры месяцы пасля шлюбу. На балі, наладжаным у гонар імператара Аляксандра, які праязджаў праз Вільню, Шумскі быў прадстаўлены яму. Заўважыўшы ў маршалка ордэн Ганаровага Легіёна, які той не палічыў неабходным зняць перад балем, расійскі імператар запытаў, ці не ў кампаніі 1812 года атрымана ўзнагарода. "Так, сір!" -- пачулася ў адказ. Аляксандр усміхнуўся і зноў запытаў, ці не паліў Шумскі Маскву. І зноў пачуў кароткі, але цвёрды станоўчы адказ. На гэты раз дзёрзкасць віленскага маршалка засталася "незаўважанай", больш таго, праз некаторы час ён нават атрымаў чын камер-юнкера.

Прыгажуню Марыю Шумскую Рустэм маляваў двойчы. Другі раз -- на групавым партрэце разам з яе родным братам Напалеонам Мірскім і кузінай Барбарай





Шумскай. Танклявую і мілавідную Марыю мастак змясціў на пярэднім плане карціны і прадставіў у вобразе танцуючай Тэрпсіхоры. Прысадзістая Бася ў вобразе музы гармоніі ўбаку падыгрывала ёй на ліры, а маленькі Напалеон з крыламі і лукам прадстаўляў хлопчыка Купідона. Алегарычныя вобразы былі прыдуманы свядома, бо рэдка хто на той час у вышэйшым свеце жадаў быць намаляваным ва ўласнай паставе.

Сямейнае шчасце Шумскіх было нядоўгім. У 1821 годзе праз дзесяць дзён пасля нараджэння дачкі з-за недагляду павітухі Марыя Шумская заўчасна памерла. Дзіця, ахрышчанае імем маці, склала галоўны сэнс далейшага жыцця пана Станіслава. Аднак яго ўласны лёс быў рэзка зменены падзеямі 1831 года.

За актыўны ўдзел у паўстанні Станіслаў Шумскі быў арыштаваны. Яго пасадзілі ў турму па справе Сымона Канарскага, а пазней выслалі ў цэнтральную Расію, у горад Вятку. Малалетнюю Марылю ўзяла да сябе на выхаванне цётка, ужо вядомая нам Бася Шумская. Вясной 1840 года, калі цётка Барбара памерла, Марыля вырашыла ехаць да бацькі ў ссылку. Два гады бацька з дачкою пражылі ў Волагдзе, куды Станіслава Шумскага перавялі з Вяткі. Восенню 1842 года яны вярнуліся ў Вільню, дзе перш за ўсё давялося парадкаваць фінансавыя справы сям'і, якія да гэтага часу вельмі няўдала вёў брат пана Станіслава і пакінуў пасля сваёй смерці шмат крэдытораў.

**НА ЗДЫМКАХ: Я. РУСТЭМ: партрэт Станіслава ШУМСКАГА; партрэт Марыі ШУМСКАЙ і групавы партрэт.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

НАДРУКУЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, МАЁ ПІСЬМО!

## ЦЯЖКІ ШЛЯХ І АЧЫШЧЭННЕ

25 лютага гэтага года ў нас, у горадзе Чэрвені, адбылася вялікая тэатральная падзея. Наш Народны тэатр паставіў п'есу славутага беларускага драматурга Аляксея Дударава "Адцуранне", прысвечаную чарнобыльскай трагедыі. Хачу падзяліцца з вамі, а заадно і з чытачамі сваімі ўражаннямі пасля прагляду гэтага выдатнага спектакля.

Вялікі дзякуй усім, хто паставіў і сыграў гэты вельмі няпросты спектакль.

Уражанне ў мяне засталося цудоўнае. Акцёры працавалі вельмі добра. Гэта бацька і сын Адамовічы, муж і жонка Мукавозчык, Таццяна Александрыя і інш. Усе яны пастараліся і справіліся з ролямі, нягледзячы на тое, што сама тэма, закранутая аўтарам, была неверагодна цяжкая для ўспрыняцця. Але мы ўсе атрымалі вялікае задавальненне. Цікавай мне здалася ідэя рэжысёра, калі з самага пачатку першыя рады былі адгароджаны ад гледачоў калючым дротам. Гэта рабілі двое ў форме чарнобыльскіх ліквідатараў пад песню, якая адразу ўводзіла ў тыя падзеі, што павінны былі адбывацца ў далейшым. Усе песні, якія гучалі ў спектаклі, былі напісаны спецыяльна для яго і вельмі арганічна ў яго ўпісваліся. Гэта пастараліся нашы чэрвеньскія барды.

Не чакала ўбачыць у нашым правінцыяльным тэатры і такое асвятленне, якое было ў гэтым спектаклі. Уражанне моцнае! Асабліва ў другім акце... Пад песню "Чым вінаваты" адкрываецца заслона, і паступова чырвоным, зялёным, блакітным высвечваюцца могілкі. А песня б'е па сэрцы. "Чым вінаваты, ну чым вінаваты, што тут жылі, што тут раслі... Скінем галовы на могілках, моўчкі заплачам".

У самым канцы п'есы, калі акцёры будуюць святую сцяну, гучыць песня "Час збіраць камяні". Дзівосна! Так усё падабрана, каб глядач зразумеў сэнс, што словамі гэтага не перадаць, гэта трэба бачыць. Канец удаўся. У мяне было такое адчуванне, як быццам я ўваходжу ў храм Божы... Пасля доўгай дарогі... І ачышчэнне...

Дзякуй вам, людзі, за цяжкую вашу акцёрскую працу і вялікае задавальненне!

**Таццяна МАСЛАВА.**

паводле міжнароднага права як Саюз суверэнных дзяржаў, якія добраахвотна дэлегіравалі паасобныя дзяржаўныя функцыі саюзным органам, ствараючы агульную "эканамічную", "культурную" і ваенна-стратэгічную прастору. Але кожны з суб'ектаў дагавора меў права адклікаць свае перададзеныя функцыі і аддзяліцца ад СССР.

А што адбылося на самай справе? Быў гвалтоўны "дыктат Цэнтра", асабліва пасля кароткага этапа "карэнізацыі" і НЭПа ў 1921--1927 гадах. З канца 20-х да пачатку 40-х гадоў "Цэнтр" ліквідаваў (а рэшту падавіў) нацыянальную інтэлігенцыю ў саюзных рэспубліках, фактычна ліквідаваў сялянства -- сацыяльна-этнічнае ядро кожнай нацыі,ператварыў саюзныя ўрады ў гіганцкія загатканторы. Больш за ўсіх пацярпелі беларусы і ўкраінцы, бо іх у Цэнтры не прызнавалі самастойнымі нацыямі з часоў раздзелу Рэчы Паспалітай (1772--1795 гады). Дзвесце гадоў вялося па-дзяржаўнаму арганізаванае разбурэнне беларускага этнасу, падаўлялася яго жывая душа -- нацыянальная культура. Пры гэтым беларусы крывадушна зваліся "малодшымі братамі". У такім выпадку варта спытаць услед за Стваральнікам Сусвету: "Каін, дзе брат твой Авель?"

Распад СССР быў закладзены ў самым бязбожным антыхрысціянскім фундаменце гэтай новай Вавілонскай вежы.

Дарэчы, выдатныя расійскія інтэлектуалы ад М.Дабралюбава і У.Салаўёва да М.Бярдзяева не пераставалі даказваць, што культурны універсалізм -- гэта не асіміляцыя і выцясненне адной ці некалькімі "вялікімі" культурамі ўсіх іншых "меншых" культур і народаў, а сімфонія іх раўназначных галасоў. Давайце парупімся пра такую сімфонію, не спадзеючыся на аднабока зарыентаваную адзіную прастору былога СССР ці толькі расійскі рынак у яго цяперашнім стане. Дарэчы, спадзяванне на расійскі кінарынак не прынясе надзейных дывідэндаў, бо ён разбураны і, што яшчэ горш, заваёваны заморскім кінакітчам.

Трэба прызнаць відавочную рэч: сёння расійскі рынак -- мост, праз які ідзе на Беларусь бязмежнае багно гэтай абездухоўленай псеўдакультуры. Варта было б Расіі і Беларусі дамовіцца пра тое, як пачысціць гэтыя Аўгіевы канюшні і вярнуць народу яго аўтэнтычнае мастацтва. Трэба нам, беларусам, будаваць сваю культурную прастору, паглыбляць і пашыраць яе. Бо не варта прыпадабняцца той птушынай інерцыі, пра якую калісьці красамоўна гаварыў наш славуты хрысціянскі настаўнік, паэт і красамоўца Кірыла Тураўскі: "птенець" (у нашым выпадку двухгаловае арляня) ужо адляцеў, а "безумнии" птушкі-бацькі ўсе яшчэ сядзяць на пустым гняздзе.

* * *

Па праграме іграваых фільмаў у конкурсе ўдзельнічала каля трыццаці твораў рознай эстэтычнай арыентацыі. На жаль, мы, занятыя кінадакументалістыкай, не мелі магчымасці праглядзець усе гэтыя кінастужкі. Некаторыя з іх ("Пайсці і не вярнуцца" паводле аднайменнай аповесці В.Быкава, рэжысёр М.Князеў; "Крыж на зямлі і месяц у небе" паводле дакументальнай аповесці В.Карамазава пра мастака В.Бялыніцкага-Бірулю, рэжысёр В.Басаў, "Кааператыў "Палітбюро", рэжысёр М.Пташук, вытворчасць "Незалежная студыя", "...Аз воздам" – твор пра лёс філосафа-асветніка XYII стагоддзя К.Лышчынскага, рэжысёры Б.Сцяпанаў, М.Касымава, "Чорны бусел" па матывах аповесці В. Казько "Ратуй і памілуй нас, чорны бусел", рэжысёр В. Тураў) я глядзеў раней, калі адбывалася прэзентацыя гэтых твораў у Доме літаратара. У дні "Панарамы" паглядзеў фільмы "Слава Богу, не ў Амерыцы!" (рэжысёр і сцэнарыст Э. Садрыеў, фільм вынесены як "загалоўны" на пленарную сходку ці ўрачыстае адкрыццё "Панарамы"), "Белае возера" (рэжысёр Л. Мартынюк), нарэшце, "Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях" (рэжысёр В. Тураў, па матывах аднайменнага твора Яна Баршчэўскага).

Агульнае ўражанне: не горш, чым у людзей. І не трэба прыбядняцца. Лепшыя творы беларускіх кінематаграфістаў не ўступаюць кінатворчасці на цяпершаняй прасторы былога сацыялістычнага лагера, а па некаторых крытэрыях маглі б прэтэндаваць на элітарную творчасць, калі такая наогул магчыма ў час татальнага наступу масавай культуры.

Беларуска-расійскі фільм "Слава Богу, не ў Амерыцы", верагодна, стварыўся пад уражаннем жнівеньскага путчу 1991 года і мае відавочны "масквärэцкі" накірунак. Сюжэт тыповы для сучаснай Расіі. Былы палкоўнік міліцыі ўзбройвае партатыўнымі аўтаматамі трох "экспрапрыятараў", захоплівае прыватны банк. Пад пагрозай расстрэлу служачых гэтай папулярнай сёння ўстановы патрабуе выдаць "залаты запас", каб адвезці туды, дзе ён "павінен быць", -- у Маскву. Драматычныя эпізоды (калі, напрыклад, сучасныя слугі Мінатаўра вядуць на расстрэл добрага, але баязлівага маладога чалавека) маладзёжнай публікай успрымаюцца неадэкватна -- амаль як камічныя. Але гэта не ад слабасці драматургіі (хоць яна, трэба прызнаць, не надта каб моцная), а скарэй ад інфантыльнасці тых гледачоў, якія не здольныя суперажываць бліжняму, не маюць вопыту ўспрымання трагічнага.

Фільм "Крыж на зямлі і месяц на небе" выклікаў шэраг крытычных заўваг з боку журы. Аднак, думаецца, яго ратуе класічная культура, жывапіс, беларускія краявіды, урэшце, вобраз галоўнага героя, які стаў легендай. Ва ўсякім разе фільм знойдзе водгук у душы адукаванага гледача. Такі ж лёс, мне здаецца, напаткае фільм В. Турава "Чорны бусел". У самой назве яго ўжо ёсць легенда.

**Уладзімір КОНАН.**

**(Заканчэнне будзе).**

# СКУЛЬПТУРЫ МІШЫ БУХАЎЦА





Пра тое, што ў рэспубліканскім Палацы моладзі ў Мінску праходзіць персанальная выстаўка работ пятнаццацігадовага Мішы Бухаўца, мы даведаліся занадта позна. І таму нічога не заставалася, як толькі прыняць спачуванне кіраўніка гуртка, рэзчыка па дрэву Валянціны Вузлоўскай:

-- Шкада, што не паспелі на выстаўку. Усе свае работы Міша забраў дадому. А без іх цяжка меркаваць аб таленавітасці юнака. Як спецыяліст, сцвярджаю, што ёсць у хлопца дар Божы.

А хутка прыйшоў на занятк і сам Міша. Дзелавіта падрыхтаваў свой інструмент -- разцы, стамеску, узяў драўляную загатоўку, падышоў да такарнага станка, пачаў работу, не звяртаючы ўвагі на нас.

Працаваў упэўнена, не адрываючыся. Праз некалькі хвілін удалося пагутарыць з юнаком.

-- Працую над творам на сюжэт пушкінскай "Казкі пра рыбака і рыбку".

Міша расказаў і аб сабе. Нарадзіўся ў рабочай сям'і. Бацькі нейкімі асаблівымі талентамі не вылучаліся. Вось толькі хіба сястра, якая добра малюе. Яна і дапамагае зрабіць накіды на паперы будучых скульптурак. Што ж тычыцца вучобы ў дзевятым класе сярэдняй школы, то і тут хлопец не стаў перабольшваць: "Не выдатнік, вучуся, як і многія іншыя".

Не ведаю, чым мы спадабаліся юнаку, але ён пайшоў нам насустрач, згадзіўся прынесці ў рэдакцыю некалькі сваіх работ. Калі дакладна, то восем з шасцідзесяці адной, якія былі на выстаўцы.

Бачыць скульптуркі нам даводзілася не раз. І не пачынаючых майстроў, а ўжо вопытных, чые працы ў свой час былі адзначаны спецыялістамі. І таму спачатку падалося: "Дзе ж тут сваё, адметнае? Перад намі -- капіраванне, чужое: селянін і мядзведзь пілуюць бервяно; распасцёр крылы арол"...

Але раптам кінулася ў вочы адна з работ -- бусел. Уважліва прыгледзеліся і ўбачылі тое, што шукалі. Кожнае пёрца нібы жывое, зроблена дасканала, па-майстэрску. "Бусел" дае надзею, што пры сур'ёзным падыходзе і самаўдасканаленні з гэтага юнака можа вырасці майстар. Падумалася толькі, што не згубіў бы наш час юнае дараванне. Не перарасло б жаданне зрабіць нешта прыгожае, пацешыць наша вока і душу ў звычайную працу рамесніка, для якога на першым плане будзе не мастацтва, а матэрыяльная выгада.

У шасцідзесятыя гады ў Мінску на вуліцы Цнянскай добра ведалі маладога Мялецкага, які таксама любіў займацца выразаннем скульптурак. Нягледзячы на тое, што драўляны дом, у якім ён жыў, быў стары, але так прывабна не выглядаў ні адзін на ўсёй вуліцы: галубы, нібы жывыя, на даху, мудрагелістыя ўзоры на ліштвах і веснічках. На двары -- фігуркі казачных герояў. Адна з іх потым была ўстаноўлена ў адным з калгасаў Міншчыны, лічылася ледзь не мастацкім шэдэўрам. Тыя, хто бывае сёння на Камароўскім рынку, часта бачаць ужо немаладога чалавека, які прадае драўляныя лыжкі, іншыя няхітрыя рэчы.

-- Няўжо ўсё гэта вам прыносіць задавальненне? -- неяк спытаўся ў Мялецкага. -- Вы ж такім былі майстрам. І пачуў у адказ:

-- Задавальнення не прыносіць: лыжку выразаць для мяне -- мінутная справа. Гэта мой даход і немалы. А каму сёння патрэбны мае скульптуры-выразанкі? Нікому.

Такія наступілі часы, калі трэба больш думаць аб хлебе надзённым. Застаецца спадзявацца, што нешта зменіцца, што лёс Мялецкага міне таленавітага хлопца Мішу Бухаўца. І вырасце з яго майстар, які будзе радаваць людзей сапраўднымі творамі мастацтва.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Міша БУХАВЕЦ за работай; выразанкі юнака.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*СПОРТ*

## НА ПРЫЗЫ АЛЯКСАНДРА МЯДЗВЕДЗЯ

У мінскім Палацы спорту ў канцы сакавіка прайшоў 26-ты традыцыйны міжнародны турнір Гран-пры па вольнай барацьбе на прызы трохразовага алімпійскага чэмпіёна праслаўленага Аляксандра Мядзведзя.

Тое, што арганізатары спаборніцтва паведамілі пра бясплатны ўваход у Палац для ўсіх жадаючых, было лішнім. Ніякай страхоўкі тут не патрэбна. На турнір хадзілі заўжды і за любыя грошы, бо аўтарытэт і павага да Аляксандра Мядзведзя ў нашай рэспубліцы застаюцца надзвычай вялікімі. Толькі сёлета ў Мінск прыехалі прадстаўнікі дваццаці двух краін свету, чэмпіёны і прызёры першынстваў сваіх краін. Ці не таму прайшоўшы турнір назвалі яшчэ і "малым чэмпіянатам свету".

Таму, як паказалі спаборніцтвы, атрымаць перамогу было надзвычай цяжка. Найбольшага ж поспеху ў Мінску дамагліся ўкраінскія барцы. Яны заваявалі чатыры першыя месцы.

Па добрай традыцыі не засталіся без узнагарод і беларускія спартсмены. Гамяльчанін Сяргей Смаль (у вагавой катэгорыі да 62-х кілаграмаў) заваяваў першае месца. Значна прыбавіў у майстэрстве і сын Аляксандра Мядзведзя Аляксей. Калі летась ён быў пятым, то ў гэтым годзе змог стаць бронзавым прызёрам. Такое ж месца дасталася Сяргею Дземчанку, а вышэй за іх -- на другую прыступку п'едэстала гонару падняліся Ігар Козыр і Віктар Сербін.

Упершыню за ўсю гісторыю гэтых спаборніцтваў паралельна з дарослымі правялі свой турнір, "Мядзведзяня", і юнакі.

Ну а прызы, як заўжды, пераможцам і прызёрам уручаў сам Аляксандр Мядзведзь.

Цікавасць да турніру была настолькі вялікай, што яго ў дзень адкрыцця наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

## КЛАСАМ ВЫШЭЙ

Год назад хакеісты зборнай Беларусі недабралі ўсяго адно ачко, каб трапіць у групу "В" на першынстве свету.

Сёлета ж шанцы нашай каманды расцэньваліся яшчэ ніжэй. Касцяк зборнай, як вядома, складалі хакеісты мінскага "Цівалі". Ды і на першынстве МХЛ, і на розыгрышы Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў нашы спартсмены выступілі няўдала.

Трэнеры з тых выступленняў змаглі зрабіць належныя высновы, бо ўжо на чэмпіянаце свету ў групе "С" зборную Беларусі быццам падмянілі. Спачатку яна атрымала перамогу ў Сафіі ў папярэдніх гульнях і трапіла ў фінал, куды прабіліся яшчэ дзве каманды з СНД: Украіны і Казахстана.

Вось тут беларускім спартсменам прыйшлося вельмі цяжка. Але і гэты бар'ер быў пераадолены паспяхова. Перамогі ў сустрэчах са зборнымі Украіны (3:1) і Казахстана (2:1) далі права нашым землякам гуляць у наступным годзе ў групе "В". А там, калі будзе спадарожнічаць поспех, можна трапіць і ў вышэйшы клас, дзе за сусветнае першынство гуляе эліта: зборныя Канады, Швецыі, Фінляндыі, Расіі...

**Яўген ІВАНОЎ.**

# ГЕРОІ ТРОХ ПАЛОТНАЎ ЯНА РУСТЭМА

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Палымянае сэрца патрыёта і клапатлівага бацькі ў асобе Станіслава Шумскага суіснавала побач з капарытным вобразам свецкага льва. Як адзначала ў сваіх успамінах Габрыэля Пузына, пан Станіслаў пасля некалькіх гадоў выгнання з'явіўся ў віленскіх салонах з прычоскай, якую сам называў "a la diable m'emporte" ("каб мяне чорт узяў"). Ён звычайна меў вялікую ахвоту праводзіць час у таварыстве дам, і нават у Валагдзе, дзе мужчыны і жанчыны на вечарынах заўсёды бавіліся асобна, адзін меў талент і прывілей дагадзіць дамскаму колу, за што яго вельмі любіла і шанавала ўсё валагодскае спадарства.

Каб сумленна разлічыцца з усімі крэдыторамі пасля вяртання ў Вільню, Шумскаму давялося мець вялікія выдаткі, што амаль пазбавіла пасагу адзіную каханую дачку. Бацькоўскі клопат і смутак з тае прычыны быў развеяны толькі пасля таго, як да Марыі пачаў заляцацца Ігнат Лапацінскі, у асобе якога пан Станіслаў убачыў чалавека, якога цікавіў не пасаг дачкі, а выключна яе добрыя якасці. З лёгкім сэрцам ён благаславіў шчаслівы шлюб, ад якога пасля ўсіх пакут і прыгод маладосці меў найвялікшую ўцеху і найвялікшы смутак. 17 красавіка 1851 года, захварэўшы пасля родаў трэшчага дзіцяці, памерла яго дачка Марыля Лапацінская. Станіслаў Шумскі вельмі глыбока перажываў смерць дачкі. Пасля пахавання Марылі на могілках у Сар'і (зараз вёска ў Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобласці) ён застаўся ў маёнтку зяця, дзе па прапанове і пад націскам апошняга пачаў пісаць мемуары аб падзеях 1812--1848 года. У выглядзе асобнай кніжкі пад назвай "У баях і вязніцах" яны былі выдадзены ў Вільні ў 1931 годзе.

Памёр Станіслаў Шумскі 3 ліпеня 1871 года ў Вільні, акружаны ўсеагульным гонарам і павагай. Пахавалі яго на Росах. Тры алейныя партрэты пэндзля Яна Рустэма доўгі час захоўваліся ў фамільным зборы Лапацінскіх, адкуль пасля 1919 года былі разам з каштоўнай бібліятэкай і архівам перададзены "Таварыству прыяцеляў навук" у Вільні -- навуковай арганізацыі, якая ў 1940 годзе ўвайшла ў склад Акадэміі навук Літвы. Далейшы лёс партрэтаў і іх цяперашняе месцазнаходжанне аўтару гэтых радкоў, на жаль, невядомы. Постаці мінуўшчыны, набыўшы рысы канкрэтнасці і выразнасці, чарговы раз згубіліся ў нябыцці...

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77).
Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 813.
Падпісана да друку 3. 4.1995 г.